ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 344 Год выд. XXXVII | Люты 1988

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ Й СУЧАСНАСЬЦЬ

### Да 150-годзьдзя ад нараджэньня

*...Праўды ня кінем,*
*Хучтэй Неба і шчасьце, як праўду абмінем.*
**Кастусь Каліноўскі**



***Кастусь Каліноўскі.*** *Партрэт работы Пётры Міpaновіча. Фота А. Акуліча.*

З усіх беларускіх нацыянальных гэрояў апошняга поўтысячагодзьдзя Кастусь Каліноўскі — адзін з найбаявейшых. Ваяк сярод кніжнікаў. Хоць фізычнага гвалту над намі было вунь аж колькі, мы бараніліся (і бунтаваліся) ня гэтулькі зброяй, колькі словам. Слова было і нашым пачаткам, і «залатой» сярэдзінай (пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага), і цяпер яно стаіць у самым цэнтры нашага калектыўнага «быць ці ня быць». Слова — аснова, яно наша існасьць і наша зброя.

Кастусь Каліноўскі войстра адчуваў гэтую функцыянальнасьць роднае мовы. Перад тым як узяцца за зброю, ён узяўся за пяро. «Мужыцкай Праўдай» сваёй уздымаў народ на акт гэраізму, на дэманстрацыю нязломнасьці імкненьня да праўды й справядлівасьці.

Паводля савецкага гісторыка Анатоля Сьмірнова (А. Ф. Смирнов. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. Масква, 1963, б. 346), супраць паўстанцаў «была кінутая добра ўзброеная 120-тысячная карная армія, сфармаваная зь лепшых часьцяў царскай гвардыі, казацкіх палкоў».

Паміж паўстанцамі й карнікамі адбылося каля 260 ваенных сутычак. Перамога, як ведаем, была на баку карнікаў. Сёлета, тры дні перад 25-м сакавіка, споўніцца 124 гады ад часу павешаньня ў Вільні Кастуся Каліноўскага.

150 гадоў ад нараджэньня, 124 гады ад сьмерці. Як шмат зрабіў для свайго народу 26-гадовы юнак Кастусь Каліноўскі! І наколькі трывалейным за зброю выявілася слова. Паржавелі стрэльбы й косы каліноўцаў, згніла пятля, развалілася вісельня, пагубляліся магілы й сьляды ссыльных катаржнікаў, а словы жывуць, словы гучаць — калі не *на* Беларусі (усё яшчэ забароненыя), дык *над* Беларусяй: «У нас, Дзяцюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці памаскоўску, а то для таго, каб цябе заўсім перарабілі на маскаля» («Мужыцкая праўда» № 4). Сучасьніка-жа наш у «свабоднай і раўнапраўнай» БССР жаліцца: «А ўжо бацькоў ня ў стане зразумець/Сыночак гарадзкі ў вясковай хаце». («ЛіМ», 8.І.88). Гэтая жальба і актуалізуе сёньня Кастуся Каліноўскага. Ягоны сымбалізм у сучаснай нацыянальна-культурнай трагедыі Беларусі.

Кастусь Каліноўскі сымбалізуе ня толькі паўстаньне зброі, але й паўстаньне духа. Зброю здушыла зброя. Але на дух, выказаны ў слове, пятлі не накінеш. Ён непадуладны гвалту над ім. Ён няўмірушчы. Ён жыве й пад цэнзурнай забаронай, яго не арыштуеш і не пасадзіш у «псыхушку». Дух Кастуся Каліноўскага з намі, з нашым народам.

Чакаючы на вісельню ўжо, у змрочных сьценах віленскае турмы, Каліноўскі пісаў, зварачаючыся да Беларусі (у вобразе «Марысі»).

Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,
Но прыймі цяжкую кару, Прадвечнага волю,
А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго сьвету Табе адзавуся.

Ён і адзываецца. Голас ягоны пачынае гучэць сёньня на Беларусі ў голасе маладых каліноўцаў — у іхных творах, у іхных імкненьнях, у іхнай арганізацыйнай ініцыятыве «зьнізу». Дух Каліноўскага лунае над Беларусяй, кліча да працы, да справядлівасьці, да праўды. «Хучтэй Неба і шчасьце, як праўду абмінем»...

НАВУКА Ў НЯВОЛІ

## ЯК В. ШАЛЬКЕВІЧ «УДАКЛАДНІЎ» КАЛІНОЎСКАГА

У сваім лісьце «з-пад шыбеніцы маскоўскай» Кастусь Каліноўскі пісаў:

***«Нямаш, Браткі, большчага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыці ў дастатках і тады толькі, памаліўшыся папраўдзе Богу, заслужыць Неба, бо, збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу шчыра палюбіць».***

Пасаж гэты зьмешчаны як эпіграф да прадмовы, якую беларускі пісьменьнік і акадэмік Кандрат Крапіва напісаў для выдадзенае ў Маскве кнігі «Антология педагогической мысли Белорусской ССР» (Масква, 1986). Кніга выйшла пад грыфам Акадэміі пэдагагічных навук СССР. У кнізе сказана (б. 418), што «ўдакладненьні перакладу [тэкстаў Каліноўскага] выкананыя В. Шалькевічам». Вось як выглядае вышэй паданы пасаж у «перакладзе» Шалькевіча:

*«Нет, братья, большего счастья для человека на этом свете, чем ум и образование. Тогда только может он... жить в почете... когда, обогатив наукой разум и развив чувства, как братьев своих людей полюбит...».*

«Жыці ў дастатках», паводля Шалькевіча, гэта — «жыць у пашане». Згадкі пра малітву, Бога й Неба замененыя шматкроп'ем. Словы «разаўе сэрца і радню цэлу шчыра палюбіць» (у чым можна бачыць ідэю гарачае любасьці да свайго народу, да «радні цэлай») у Шалькевіча замененыя аморфным («інтэрнацыяналісцкім») «як братоў сваіх людзей палюбіць».

Дарэчы, у тэй-жа «Антологии» зьмешчаны пераклад другога ліста «з-пад шыбеніцы», напісанага Каліноўскім у форме вершу. Трэйцюю страфу ў гэтым вершы (гл. арт. «К. Каліноўскі й сучаснасьць») Шалькевіч «удакладніў» тым, што выкінуў яе, не замяніўшы нат шматкроп'ем, а ў тлумачэньнях аблыжна зазначыў, што ў вершы «ярко проявились его (г. зн. Каліноўскага) атеистические идеи».

Схарактарызаваць усе гэтыя шалькевічаўскія «ўдакладненьні» можна найлепш словамі таго-ж Кастуся Каліноўскага. У сваім трэйцім разьвітальным лісьце «з-пад шыбеніцы» Каліноўскі напісаў: «Як дзень з ночай ня ходзяць разам, так ня ідзе разам навука праўзівая зь няволяю маскоўскай»...

**Янка Запруднік**

### «МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА» Тэксты й камэнтары

Тэксты ўсіх сямёх нумароў газэты «Мужыцкая Праўда» ды трох лістоў «з-пад шыбеніцы», пабеларуску й паангельску, з уводным артыкулам да іх і камэнтарамі, выйшлі пад грыфам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў апрацаваньні др. Янкі Запрудніка й праф. Томаса Бэрда ў 1980 годзе (выданьне Фундацыі імя П. Крэчэўскага). Кнігу гэтую можна набыць за 5 даляраў праз газэту «Беларус» або беспасярэдня ў БІНіМе.

### СПОСАБ ДАПАМОГІ БЕЛАРУСАМ У БССР

Беларусам у БССР, якія бароняць сваю нацыянальную мову, вы можаце выдатна дапамагчы сваім удзелам у сёлетняй **Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі** (Таронта, Канада, 3-5.IX.1988), якая будзе прысьвечаная справе абароны беларускае мовы ад русыфікацыйнага наступу на яе.

(Паводля «Камунікату Згуртаваньня Беларусаў Канады», № 6).

### СТРАХ МОВАВЕДАЎ ПЕРАД «МАСКАЛЁМ»

У тэкстах усіх сямёх нумароў газэты «Мужыцкая Праўда» словы «маскаль», «маскоўскі» ўжытыя 48 разоў. Словы гэтыя, як ведама, сустракаюцца і ў беларускім фальклёры і ў беларускіх паэтаў, прыкладам, у Янкі Купалы («Просім папросту: кіньце нас мучыць, ляхі, маскалі!» або ў Якуба Коласа («І із нас душы ня выняў/Ні маскаль, ні польскі пан»). Але калі вы хочаце даведацца, што значыць слова «маскаль», дык пяцітомавы Тлумачальны Слоўнік Беларускай Мовы (Мінск, 1977-1984) вам не паможа, там гэтага слова няма. Засталіся толькі паабапал яго «маска» й «маскарад». Гэтыя два словы ў пэўным сэнсе падказваюць прычыну зьнікненьня таго трэйцяга...

### ЗМАГАНЬНЕ ЗА МОВУ Ў МЕНСКІМ МЭТРО

У выніку пратэстаў беларускае грамадзкасьці, асабліва з боку студэнтаў Беларускага Тэхналягічнага Інстытуту (115 подпісаў пад пратэстам — «ЛіМ», 18.XII.87) ды з боку аб'яднаньня маладых аматараў роднай прыроды «Сьвітанак», супраць ігнараваньня беларускае мовы ў менскім мэтро, цяпер, як даведваемся з прыватнай крыніцы, аб'яўляньне прыпынкаў у мэтро падаецца ў беларускай мове.

ЦІ ПАДПІСАЛІСЯ ВЫ НА ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС», ЯКАЯ ВЫХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ ПАДПІШЧЫКАМ І АХВЯРАДАЎЦАМ?

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*Ліст у Рэдакцыю*

# ТЭРАРЫСТЫ Й ЗАЛОЖНІКІ

**Што зьмянілася, а што не ў СССР**

Зьмены, зьмены і яшчэ раз зьмены. Здаецца, гэтымі словамі можна найлепш абагульніць гарбачоўскую палітыку ў Савецкім Саюзе. Аднак відавочна, што да грунтоўных зьменаў у савецкім жыцьці яшчэ далёка. Усё, што зроблена добрага, можа хутка зьнікнуць разам з тымі некалькімі таварышамі з Палітбюро, на якіх перабудова і трымаецца.

Я, прыкладам, ня здолею дакладна адказаць на пытаньне аднае савецкае песьні: «З наго пачынаецца Радзіма?» Але на пытаньне «З чаго пачынаецца ў СССР запраўдная дэмакратыя?» — я адкажу: зь перагляду крымінальнага, эканамічнага, рэлігійнага ды ўсялякага іншага заканадаўства, — каб кожны чалавек быў запраўды вольны ў выказваньні сваіх думак, практыкаваньні саве рэлігіі, праводжаньні эканамічнае дзейнасьці. Калі-ж гаварыць пра цэлыя народы, то ўсе яны, бязумоўна, павінны быць паўнапраўнымі ў пытаньнях і культурных, і палітычных, і эканамічных. Вядома, хто хоча самастойнасьці, той павінен яе атрымаць — паводля таго-ж савецкага закону, які гарантуе права выхаду з СССР. Бязумоўна, справа гэта складаная і не хацелася-б, каб яна разьвязвалася зброяй, а толькі ўсеагульным рэфэрэндумам.

Хочацца закрануць яшчэ й пытаньне тых, хто быў засуджаны за свае пагляды, за іншадумства. Гэткія людзі павінны быць рэгабілітаваныя, тымчасам як іх толькі «пашкадавалі» (бачыце, ёсьць яшчэ на сьвеце і добрыя ка́ты).

І вось здаецца мне, што я на ўсе гэтыя мае прапановы пачуў нядаўна адказ ад самога Гарбачова! Прагучэў гэты адказ у інтэрвію амэрыканскаму тэлябачаньню. І гучыць гэты адказ так: «Ня лезьце вы із сваймі законамі ў наш манастыр!» Вось як яно выходзіць. А можа й праўда трэба маўчаць? Бо й перамовы вунь аб раззброеньні йдуць, нават аб тым, як яго кантраляваць. Чым дрэнна? А там, можа, дамоваяцца, як спыніць крывавую савецкую экспансію ў Афганістане, Анголе й г. д. Дый казаць, можа, трэба цяпер адно столькі, колькі дазволена казаць савецкай прэсе. Раней і гэтак ня было: хто надта шмат пытаўся й меркаваў, таго накіроўвалі да белых мядзьведзяў ці да людзей «ў белых халатох». Ну, а цяпер у савецкім «катле» зроблена «дзюрка-галоснасьць» — пачаў кіпець ён як на тую бяду!

Дык вось і я паспрабаваў трохі дапамагчы гэтаму «катлу», дакладней — г. зв. перабудове. Ну, папершае, апынуўшыся тут на Захадзе, я не маўчаў аб лёсе майго сябры й аднаверца зь Вільні Віліса Догіліса. Гэты Літовец ужо скора год як знаходзіцца ў Віленскім псыхіятрычным шпіталі за свае рэлігійныя перакананьні. Далей паспрабаваў я выказваць свае думкі на старонках газэты «Беларус». І вось савецкія ўлады пачалі са мной «дыялёг». У кастрычніку-лістападзе летась маіх сваякоў, родных сясьцёр мае жонкі Тамары, Соф'ю і Надзею Баяроўскіх, а таксама брата Анатоля (жыхароў Вільні) паклікалі на допыты. Зразумела, гэтым займаўся мясцовы КДБ. На гэткія-ж «гутаркі» «таварышы» паклікалі яшчэ пастара царквы хрысьціянаў-пяцідзясятнікаў Паўла Раманчыка ды іншых веруючых. Аднак самы ціск усё-ж быў зроблены на маю радню (магчыма, гэты «дыялёг» ужо зачапіў і маіх бацькоў у Маладэчне; весткак я не дастаў). І чаго-ж хацелі прадстаўнікі савецкай улады ад нашай радні? Аднаго — каб яны «ў сьлязах» нас папрасілі замаўчаць. Калі яны адмовяцца так «прасіць», іх «паспрабуюць», магчыма, звольніцьскараціць зь месца працы, ну, і іншых «прыемнасьцяў» наабяцалі!

Вось вам «іранскія тэрарысты», і вось вам іхныя «заложнікі». Тэрарысты гэтыя ад перабудовы, а заложнікі — мае сваякі. Відавочна, зьвярынае стаўленьне да правоў чалавека яшчэ дамінуе ў савецкай рэчаіснасьці.

Я патрабую, каб мае сваякі былі пакінутыя ў супакоі. А што да мяне, дык я хачу жыць зь вераю ў Бога, як добры сын свае Радзімы-Беларусі. А яны ўсё — «наш манастыр» і «вашыя законы»... А я кажу: мінаюць часы жудасна крывавага вашага «манастыра» і шматлічных заложнікаў.

Хай-жа пераможа здаровы розум і прыпыніцца ўсялякае гвалтаваньне.

**Пятро Грыгальчык**

## ПАПА ПРА ХРЫШЧЭНЬНЕ РУСІ

У навагодняй казані сваёй у часе багаслужбы ў базыліцы Сьв. Пятра ў Рыме Папа Ян Павал II, гаворачы пра хрышчэньне сьв. Уладзімерам Кіеўскай Русі, сказаў: «Мы падзяляем радасьць гэтае ініцыятывы з усімі сынамі й дочкамі народаў Расеі, Украіны й Беларусі ды іншых краёў». У малітве сваёй Сьвяты Айцец зьвярнуўся да Маці Божай, каб яна ўзяла на сябе «ўсе праблемы народаў гэтых краёў».

### *ПРА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ Ў БССР*

Карэспандэнт газэты «Філядэльфія Інкўайрэр» Стыв Голдстын, наведаўшы Менск, напісаў артыкул пад заг. «Беларусы шукаюць вызначэньня сябе ў СССР» (27.I.88). Добра паінфармаваны журналіст расказаў пра намаганьні беларускае інтэлігенцыі аднавіць ролю нацыянальнае мовы ў жыцьці рэспублікі. Голдстын азнаёміў свайго чытача (тыраж газэты 500 тыс. экз.) з двума калектыўнымі лістамі, якія Беларусы паслалі Гарбачову, расказаў пра русыфікацыю беларускага школьніцтва, пра мітынг пратэсту, што адбыўся ў Менску 1-га лістапада летась, у якім, паводля яго, узяло ўдзел «больш за 200 асобаў» ды які трываў «блізу тры гадзіны». Да артыкулу была дадзеная карта БССР, каб паказаць месцазнаходжаньне Беларусі.

*Заклік*

# ПАБУДОВА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА

Сёлета адзначаем 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі. Гэты важны юбілей хочам уславіць узьвядзеньнем Беларускага Крыжа ў Канадзе, у сьвятым месцы паўночна-амэрыканскіх мучанікаў, што завецца Martyrs' Shrine, Пакланяньня Мучанікам. Знаходзіцца гэтая прошча ў мясцовасьці Мідленд, міляў 80 на поўнач ад гор. Таронта, над возерам Гюрон на маляўнічым лясістым узгорку. На самай гары стаіць касьцёл, а навокала яго, на плошчы колькіх гэктараў лесу-парку, разьмешаныя крыжы або алтары розных нацыянальнасьцяў: Лятувісаў, Палякоў, Украінцаў, Чэхаў, Італьянцаў, Партугальцаў... Беларусаў тымчасам няма... Увесну, улетку, увосень штонядзелі там адбываюцца паломніцтвы, тысячы людзей надведваюць прошчу Мучанікаў.

Думка, каб узьняць там і наш беларускі еўфрасіньнеўскі крыж нуртавала ў нас даўно, аж пакуль не дасьпела ў сувязі зь сёлетнім тысячагодзьдзем хрысьціянства.

На крыжы мог-бы быць выбіты надпіс: «Крыж гэты ўзьнесены Беларусамі (дата) ў тысячныя ўгодкі прыняцьця хрысьціянства ў Беларусі на славу Богу й Бацькаўшчыне». Гэта паангельску. А далей ішоў-бы беларускі тэкст малітвы «Магутны Божа».

Як паінфармавала нас дырэкцыя прошчы, крыж гэткі будзе каштаваць тры тысячы даляраў.

Горача зьвяртаемся да вас, Дарагія Суродзічы, спрычыніцца фінансава да ўжыцьцёўленьня гэтага праекту, узьняцьця Беларускага Крыжа, які быў-бы годным адзначэньнем сёлетняга вялікага юбілею 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі ды адначасна стаўся-б трывалым сьледам нашага нацыянальнага жыцьця на паўночна-амэрыканскім кантынэньце.

Ахвяры, за якія будзем Вам шчыра ўдзячныя, просім слаць на адрас (выпісваючы чэк на *Byelorussian Cross):*

Dr. Raisa Zuk-Hryskievic
54 Mary St.
Barrie, Ont. L4N 1T1
CANADA

**Арганізатары праекту**
**«Беларускі Крыж»**

# ДЫЯКАН УЛ. РУСАК — БЕЛАРУС

Расейская манархістычная газэта «Наша Старна» (Буэнос-Айрэс, № 1941, 10.X.87) апублікавала матар'ял з выдаванага ў Маскве «Бюлетеня Христианской Общественности» (выпуск I-II, ліпень 1987) пра зьняволенага цяпер дыякана Расейскае праваслаўнае Царквы Ўладзімера Русака (ягоную пропаведзь, сказаную ў Віцебску, гл. у «Беларусе» № 312). «Наша Страна» піша:

«Уладзімер Сьцяпанавіч Русак нарадзіўся ў чэрвені 1949 году ў Баранавічах на Беларусі. сям'я Русака — людзі веруючыя. Ягоны старэйшы брат, нябожчык Пятро, быў сьвятаром, сакратаром Беларускай епархіі, памёр раптоўна, зусім маладым. Пляменьніца сьпявае ў царкоўным хоры».

У красавіку 1986 г. дыякан Ул. Русак быў арыштаваны і засуджаны на сем гадоў лягероў ды 5 гадоў ссылкі. Ён хворы (у выніку чэрапнай траўмы мае слабы зрок і слух) і яго трэба бараніць.

Дыякан Ул. Русак быў засуджаны за напісаньне працы пра перасьлед царквы ў СССР. Першы том гэтага дасьледаваньня выйшаў летась у ЗША, у выдавецтве расейскага Сьвятатроіцкага манастыра ў Джорданвіле, штат Нью-Ёрк. Кніга азагалўленая «Свидетельство обвинения». Аўтар узяў сабе за псэўданім Сьцяпанаў (відаць, ад імя свайго бацькі), а ў дужках паставіў «Русак». У кнізе зьмешчаныя фатаграфіі 207 гіерархаў РПЦ, у большыні зьнішчаных. Сярод іх ёсьць фатаграфіі і гэткіх уладыкаў: Еіскап Менскі й Беларускі Васіль (Ратміраў), прапаў бязь вестак: Архіеп. Горадзенскі й Беластоцкі Вэнэдыкт (Бабкоўскі), памёр у 1950 г.; Архіеп. Полацкі й Віцебскі Гаўрыіл (Ваяводзін), прапаў у 1938 г.; Архіеп. Магілеўскі й Амсьціслаўскі Канстантын (Булычаў), прапаў бязь вестак у 1925 г.; Архіеп. Мэлхісэдэк (Паеўскі), які быў высланы зь Беларусі й памёр у 1931 г. як Архіеп. Енісейскі й Краснаярскі; Архіеп. Магілеўскі Паўлін (Крошачкін), памёр у 1940 годзе.

## ПРОСЬБА ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСАВЕДЫ

**ў Ляймэне, Зах. Нямеччына**

Пры Беларускім музэі ў Ляймэне (гл. «Б-с» № 340, Наведнікі музэю ў Ляймэне) заснаваны Інстытут Беларусаведы. Кіраўнік інстытуту сп. Юры Попко, стараючыся забясьпечыць памешканьне для інстытуту, піша:

Ужо сабрана 50 тысячаў марак. Але гэтых грошай замала. Таму звярочваемся да Беларусаў па ўсім сьвеце: ДАПАМАЖЭЦЕ НАМ, калі ласка. Грошы шлеце на банкаўскае конта: Bjelorussisches Museum, Kto. N. 115.6981.09, Volksbank Kurpfalz, Blz. 672 902 00. 69 Heidelsberg, W. Germany, або на Bjelorussisches Museum, Goethestr. 1, 6906 Leimen 3, W. Germany.

Кожнаму ахвярадаўцу будзе паведамлена, што за гэтыя грошы куплена для інстытуту ды імя кожнага будзе ўнесенае ў кнігу-гісторыю Беларускага Музэю й Інстытуту пад наз. «Беларуская легенда ў Ляймэне, што каля Гайдэльбэргу». Забясьпечаны такой дарогай, інстытут будзе меці фонд на свае выданьні й на дапамогу іншым навукоўцам ды маладым людзям, якія цікавяцца беларускай справай, мовай, тэматыкай.

Усё залежыць ад Вас, дарагія Суродзічы. Музэй паўстаў із шчырага жаданьня, спадзяёмся, што й Беларускі Інстытут будзе падтрыманы Вамі. За дапамогу загадзя дзякуем.

Адказны за Беларускі Музэй і Інстытут **Юры Попко**

## ВЫКЛІК ГАРБАЧОВУ

Лёндaнскі «Таймс» (23.XII.87) зьмясьціў артыкул Багдана Нагайлы аб сёлетнім 1000-годзьдзі хрысьціянства на Ўкраіне, Беларусі і ў Расеі. Маскоўскі Патрыярхат, піша Нагайла, прадстаўляе юбілей, як чыста расейскую падзею, бо ўкраінская й беларуская аўтакефальныя цэрквы даўно забароненыя ў Савецкім Саюзе. Аўтар выказаў думку, што калі Гарбачоў хоча стварыць уражаньне больш талерантнага лідэра, дык 1000-годзьдзе хрысьціянства дае савецкаму лідэру нагоду прадэманстраваць памяркоўную палітыку ў дачыненьні да істотнае часткі савецкага грамадзтва розных нацыянальнасьцяў і рэлігіяў, якое складаецца з прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў і рэлігіяў. Паводля апошніх ацэнак, піша Нагайла, у Савецкім Саюзе налічваецца да 60 міліёнаў людзей, што вераць у Бога.

# СУПРАЦЬ КАГО ПАЎСТАНЬНЕ?

## (Адказ Міхасю Мушынскаму)

Літаратуравед Міхась Мушынскі, наводзячы крытыку на кнігу брытанскага слявіста праф. Арнольда Макміліна A History of Byelorussian Literature, піша: «Аўтар 'Гісторыі беларускай літаратуры' намагаецца прыпісаць Уладзімеру Дубоўку ні шмат ні мала — прапаганду антысавецкіх ідэяў. Калі даць веры Макміліну, то ў вершы 'Плач навальніцы' (дарэчы, гэта ня верш, а паэма — А. З.) паэт 'малюе ў сваім уяўленьні ўсебеларускае нацыянальнае паўстаньне'. Шкада, што дасьледнік не ўдакладняе, супраць каго скіраванае паўстаньне, які ягоны клясавы зьмест. Пачуць гэта было-б вельмі пажадана...». («Неман», 1987, № 1).

Адказ на гэтае пытаньне Мушынскі мог-бы знайсьці ў кнізе Дубоўкавага малодшага сябры, таксама ўзвышэнца, як і Дубоўка, Антона Адамовіча. Адамовічавай англамоўнай кнігай пад заг. «Апазыцыя да саветызацыі ў беларускай літаратуры» (Нью-Ёрк, 1958) карыстаўся й Макмілін, калі пісаў сваю «Гісторыю беларускай літаратуры».

Адамовіч у сваёй кнізе падае пра гэтак званы «Мангольскі праект», пра які вельмі шмат гутарак было ў Менску ў сярэдзіне 1920-х гадоў.

Беларуская ССР, як ведама, была па сканчэньні савецка-польскай вайны створаная толькі на частцы этнаграфічнай тэрыторыі ўсходняе Беларусі, на тэрыторыі ўсяго шасьцёх паветаў. У 1924 годзе адбылося першае гэтак званае ўзбуйненьне БССР. Пасьля адбыліся далейшыя «ўзбуйненьні». Але перад тым як яны адбыліся, у Менску й паза ім пайшлі чуткі — з бальшавіцкіх колаў — пра гэтак званы Мангольскі праект. Паводля гэтага праекту, у Заходняй Беларусі мела быць выкліканае нацыянальнае паўстаньне, адначасна мела быць інсцэнізаванае паўстаньне ў савецкай Беларусі, якая абвесьціла-б аб сваім выхадзе із складу Савецкага Саюзу ды разам з паўсталай Заходняй Беларусяй утварыла-б самастойную дзяржаву пад савецкім пратэктаратам — штосьці наводля Мангольскае Народнае Рэспублікі. Адсюль і назоў «Мангольскі праект».

Антон Адамовіч піша ў сваёй кнізе, што цяжка сказаць, наколькі рэальным быў гэты праект, можа гэта была толькі правакацыя, але ў тагачаснай беларускай савецкай літаратуры ідэя нацыянальнага ўсебеларускага паўстаньня пакінула свае адбіткі: у паэме Міхася Чарота «Атаман», у паэме Андрэя Александровіча «Паўстанцы», у вершы таго-ж Дубоўкі «Тым, хто на Захадзе», у вершы маладое паэткі Хмаркі «Сакавіку».

Пра паэму «Плач навальніцы» Антон Адамовіч у сваёй кнізе «Апазыцыя да саветызацыі ў беларускай літаратуры» піша, як пра адзін з наймацнейшых твораў Дубоўкі. Праўда, у друку гэтая паэма зьявілася крыху спозьнена ў дачыненьні да «Мангольскага праекту», бо зьмешчаная яна была толькі ў зборніку 1927 году «Наля». Але і ў 1927 годзе настроі ў беларускім нацыянальным актыве ў Менску былі тыя самыя, што і ў 1924-м, калі «Мангольскі праект» быў ува ўсіх на вуснах.

Дубоўкава паэма «Плач навальніцы», піша Адамовіч, была прысьвечаная ідэі ўсебеларускага паўстаньня — «навальніцы», якая прывядзе да «дзіва» — абвешчаньня свабоднае й незалежнае Беларусі: «У змаганьні народзіцца дзіва», кажучы словамі Дубоўкі.

Нельга пры гэтым не зрабіць аднае заўвагі: дзіўна, што доктар літаратуразнаўства Міхась Мушынскі, які займаўся даволі дэтальна вывучэньнем беларускага літаратурнага працэсу 1920-х гадоў, чакае ад брытанскага аўтара тлумачэньня Дубоўкавага вершу — ды неапаэмы «Плач навальніцы». На добры лад тлумачэньне гэтае мусіла-б ісьці ад Мушынскага да замежных дасьледнікаў. Праўда, галоснасьць у Савецкім Саюзе гучыць яшчэ не на ўвесь голас. Можа, калі гэтая галоснасьць набярэ размаху, Міхась Мушынскі здолее выясьніць і самому сабе і чытачам сваім шмат якія затуманеныя мамэнты нацыянальнае гісторыі пэрыяду 1920-х і 30-х гадоў.

**Арсень Загорны**

---

# МІНУЎШЧЫНА БЕЛАРУСІ: КАНЕЦ «БЕССАРОМНЫМ БАЙКАМ»

«Настаўніцкая газэта» далучылася да абароны гістарычнае праўды. У нумары за 19-га верасьня летась, у рубрыцы «Роздум пісьменьніка», газэта зьмясьціла артыкул Паўла Марціновіча пад заг. «Сёньняшняе і заўсёднае. Вучыцца на памылках, каб лепш 'узброіцца' ў перабудове». Марціновіч расказвае пра свае выступленьні перад школьнікамі:

«Выступаючы ў школах, я надзвычай ахвотна расказваю дзецям пра многія старонкі беларускай гісторыі, якую яны пасапраўднаму ня вывучаюць. Ня толькі пра даўнюю прыязь і ўзаемадапамогу Беларусаў і Чэхаў прыгадваю я, але і пра магутную старабеларускую дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае, пра Кастуся Каліноўскага, пра старадаўнюю беларускую культуру і яе выдатны помнік — Статут Вялікага Княства. У свой аб'ёмісты партфэль, наладаваны беларускімі кніжкамі на розных мовах, я не забываюся захапіць і кнігу... 'Памятники русского права', выпуск трэці, выдадзеную Маскоўскім выдавецтвам юрыдычнай літаратуры ў 1955 годзе. Адтуль я зачытваю, напрыклад, вось такі ўрывак:

'и князь Василеи Ярославич, чынечы знаменито каждому, хто на сю нашу грамоту узрыт или чтучы, услышыть, кому ж то будеть того потребно ведати. Я, князь великии Василеи, и моя братья малодшая дали есмо сесь записъ брату нашому Казимиру, королю полскому и великому князю литовъскому...' Так, гэта грамата вялікага князя Васіля Васільевіча каралю Казіміру IV. Напісана на старабеларускай мове. Ці даведаюцца вучні ў школе ад настаўніка гісторыі пра тое, што беларуская мова была ў свой час агульнапрынятай дыпляматычнай мовай Усходняй Эўропы?».

«Наўрад. Школьны падручнік па гісторыі БССР, адрэдагаваны нябожчыкам Л. А. Абэцэдарскім, — дрэнны памочнік для настаўніка гісторыі. Нікчэмна мала зьместоўнай інфармацыі ў гэтай кніжцы, беларуская гісторыя не паўстане зь яе старонак ва ўсёй сваёй велічы. І, бадай, самае агіднае ў гэтай кніжцы — бессаромныя байкі пра міфічнае панаваньне літоўскіх фэадалаў на Беларусі».

«Калі настаўнік хоча адбіць у вучняў цікавасьць да мінуўшчыны свайго народу — хай ён абмяжоўваецца пісанінай Абэцэдарскага і ягоных вучняў. Калі ён хоча даць ім праўдзівую інфармацыю (ня сухое гэтае слова, а дзелавое), няхай зьвяртаецца да агульнадаступных, але ня надта папулярных крыніц і перш за ўсё зборнікаў дакумэнтаў».

Ці будуць настаўнікі рабіць тое, што ім раіць пісьменьнік Павел Марціновіч? Далёка ня ўсе. Бо там-жа Марціновіч зазначае: «Панічны страх перад якой-кольвек 'крамолай' стаўся неад'емнай рысай многіх школьных калектываў».

---

*Шматгадоваму заслужанаму нацыянальнаму дзеячу, быламу Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі*

**Др. ВІНЦЭНТУ ЖУКУ-ГРЫШКЕВІЧУ**

*якому споўнілася 10-га лютага сёлета 85 год жыцьця, шчыра зычым добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў працы на дабро Беларускае Вызвольнае Справы.*

**Прэзыдыюм Рады БНР**

# БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА НА КАМП'ЮТЭРЫ

Камп'ютэрнай рэвалюцыі няма канца. Дарэчы, гэтае рэвалюцыі, як яна адбываецца ў Амэрыцы, найбольш і баіцца савецкае кіраўніцтва, бо яно бачыць, да якога эканамічнага й тэхнічнага застою прывяла Савецкі Саюз камуністычная догма.

Як падала газэта «Нью-Ёрк Таймс» у сваёй навуковай сэкцыі (15.IX.87), у Амэрыцы цяпер распрацоўваюцца ўжо камп'ютэрныя сыстэмы, дзякуючы якім камп'ютэр будзе мець здольнасьць **вучыцца,** самаўдасканальвацца ў вядзе без працаёмкага праграмаваньня яго чалавекам.

Пакуль аднак гэткія камп'ютэры будуць у ўжытку, зірнем на тую дапамогу, якую ўжо сёньня гэтыя машыны даюць нам, упаасобку тым, хто зацікаўлены ў беларусаведзе.

У студзені сёлета, пасьля блізу гадовага рамонту й перабудовы, быў адчынены для публікі галоўны даведачна-інфармацыйны зал Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі, што знаходзіцца на рагу 5-га авэню і 42-е вуліцы. Да перабудовы ў галоўным зале гэтае бібліятэкі вакол сьценаў у тысячах каталёжных скрыначак былі размешчаныя ў альфабэтным парадку панад 12 мільёнаў бібліяграфічных картачак. Каля 20 бібліятэкароў штодня напрацягу адзінаццацёх гадзінаў давалі наведвальнікам даведкі й парады, як знайсьці інфармацыю, як карыстацца каталёгам. У каталёгу знаходзілася й колькі тысячаў картак зь інфармацыяй **аб** беларускіх матар'ялах.

Цяпер каталёгу ў цэнтральным зале Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі болей няма. Каталог заменены камп'ютэрамі ды друкаваным каталёгам бібліятэкі, які налічвае аж 800 тамоў. Друкаваны каталёг улучае толькі матар'ялы з дакамп'ютэрнага пэрыяду. Новая-ж інфармацыя аб кніжным фоньдзе бібліятэкі можа быць атрыманая цяпер толькі праз камп'ютэр. Наагул, камп'ютэры ў амэрыканскіх бібліятэках цяпер — зьява паўсюдная. Бальшыня акадэмічных, спэцыяльных ды публічных бібліятэк перайшлі на камп'ютэрную тэхніку. Аднак, што новае ў Ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы, дык гэта размах камп'ютэрнай тэхнікі — тое, што бібліятэка гэтая ўвабрала на камп'ютэры матар'ялы аб кніжках блізу ўва ўсіх мовах сьвету, у тым ліку й аб кніжках, што датычаць да Беларусі ды кніжках у беларускай мове.

Штадня вялікі зал Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі наведвае каля дзесятка тысячаў асобаў. Цяпер у бальшыні выпадкаў яны павінны будуць карыстацца камп'ютэрам, каб знайсьці інфармацыю аб кніжках. Відавочна, што ня ўсе наведвальнікі здолеюць карыстацца камп'ютэрам. Іх трэба будзе вучыць. На дапамогу гэткім чытачом вызначаная група бібліятэкараў, адказных за навучаньне чытачоў новай камп'ютэрнай мудрасьці. А навучыцца карыстацца камп'ютэрам ня гэтак ужо й цяжка.

Камп'ютэрная тэхніка ў бібліятэках ня толькі прысьпяшае замаўленьне кнігі, але й дае чытачу шмат дадатковае інфармацыі: і аб аўтару кнігі, і аб тэме, і аб кнізе.

Апрача камп'ютэра, як дапаможніка для атрыманьня кнігі, чытач можа ў іншым камп'ютэры атрымаць весткі на тэму, якая яго цікавіць; можа даведацца, ці ёсьць на гэтую тэму часапісныя ды газэтныя артыкулы.

У камп'ютэрах паасобных аддзелаў бібліятэкі, прыкладам, навуковым ці славянскім, чытач можа атрымаць дакладнейшыя весткі аб друку ў дадзенай галіне. Гэтак, у Славянскім аддзеле з камп'ютэра чытач можа даведацца, колькі апошнім часам закаталягавана кніжак у беларускай мове, колькі кніжак пра Беларусь закаталягавана ў мове расейскай, даведацца, ці, прыкладам, ёсьць кнігі на тэму паўстаньня Кастуся Каліноўскага, кнігі аб Беларусах Амэрыкі ды іншыя тэмы. Трэба пры гэтам мець на ўвазе, што ў камп'ютэр ідзе толькі новая інфармацыя, бо-ж пакуль што бібліятэкары не пасьпелі запраграмаваць у камп'ютэры таго, што накапілася за мінулыя 10 годзьдзі, хоць, зрабіць гэта Ньюёркская Публічная Бібліятэка плянуе.

На сёньняшні дзень у камп'ютэравым «багажы» ёсьць 710 кнігаў, у назове якіх стаіць слова «Беларусь», ёсьць каля 150 кніжак у мове беларускай, каля 1100 кніжак у мове расейскай пра Беларусь, налічваецца каля 40 кніжак пра Беларусь у мове польскай, некалькі дзесяткоў кніжак зь беларускай тэматыкай у мове францускай ды гэтулькі-ж у мове нямецкай; пару кніжак ёсьць у мове італьянскай.

З камп'ютэра таксама відаць, што назоў «Беларусь» паангельску пішацца часьцей Byelorussia або Belorussia, але сустракаецца таксама і White Russia.

Бясспрэчна, як і ўва ўсіх галінах дасьледаваньня, камп'ютэр значна аблегчыць пошукі матар'ялаў і ў беларусіцы, а паколькі камп'ютэрная інфармацыя Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі шырака ўжываецца амэрыканскімі дасьледчыкамі й акадэмічнымі бібліятэкамі (гэтак званая сыстэма RLG), камп'ютэр дапаможа хутчэйшаму пашырэньню беларускае кніжкі.

**Вітаўт Кіпель**

*ПАДЗЯКА*

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне шчыра дзякуе сп. Андрэю Гэльвігу за запіс на відэайстужцы летасьняга Сакавіковага сьвяткаваньня ў Нью-Брансьвіку.

# ІНТЭРВ'Ю ЗЬ ПЯТРОМ ОРСАМ

**Пра беларускіх студэнтаў у Празе**

*«Беларус»:* У якім годзе Вы трапілі ў Прагу і ў моц якіх акалічнасьцяў Вы туды паехалі?

*Орса:* У Прагу я прыехаў у 1923 годзе.

*Б:* Ці Вас туды нехта накіроўваў, ці Вы самі паехалі?

*О:* Справа такая была. Расейская гімназія ў Наваградку, у якой я вучыўся, мела настаўнікаў, што былі зьвязаныя зь Беларускім Камітэтам у Вільні. Камітэт меў сувязь з Прагаю, з адным чалавекам там, прозьвішча якога было Вяршынін.

*Б:* Гэта з тым, што быў там паслом ураду БНР?

*О:* Так, ён супрацоўнічаў з урадам БНР, памагаў выпісваць студэнтаў, спатыкаў іх, калі яны прыяжджалі. Жонка ягоная была Чэшка, вельмі прыемная жанчына. Яна апякавалася намі ў першых днёх.

Што да стыпэндыяў, дык у тым часе ў Празе былі дзейныя ўкраінскі камітэт, украінскі пэдагагічны інстытут імя Драгаманава. Чэскі ўрад стыпэндыі нам, Беларусам, даваў праз украінскі камітэт. Вяршынін меў сувязі і з Чэхамі і з Украінцамі.

Вяршыніну памагалі Аляксандар Шах, Каўцэвіч, Верамей і яшчэ некалькі чалавек. Яны мелі сярэднюю асьвету з расейскае школы, пераважна землямеры, і трапілі ў Прагу першыя ды выпісвалі ўжо, хто каго знаў. Яны вялі работу, а Вяршынін толькі кіраваў, каардынаваў.

Мяне знаў Шах, то ён мне напісаў: прыяжджай! Я й паехаў. З расейскае наваградзкае гімназіі ў Празе было шмат такіх, што нават ня скончылі школы, ня мелі атэстату сьпеласьці. Віленскі камітэт націснуў на Навагрудак, зьвярнуўся да гімназіі з прапановаю, што калі маеце здольных вучняў, дык давайце прозьвішчы і будзем іх пасылаць у Прагу, хоць яны й ня скончылі гімназіі. Вось і пасылалі. У гэтую групу папаў і я. І мы нелегальна прыехалі ў Прагу.

*Б:* Колькі ў Празе было беларускіх студэнтаў, калі Вы туды прыехалі?

*О:* Чалавек дванаццаць.

*Б:* Як-жа Вам удалося перайсьці польска-чэхаславацкую мяжу?

*О:* Мой брат Аляксандар кіраваў мною. Я яго пасьля таксама выпісаў у Прагу. Калі мы даведаліся, што прапанова такая прыйшла з Прагі — што можна ехаць вучыцца, калі хто хоча, хоць і ня мае яшчэ поўнае сярэдняе асьветы, — дык я й пачаў зьбірацца. Паехала нас чатырох.

*Б:* Усе з Наваградку?

*О:* Усе з Наваградку. Даехалі мы да Кракава, там у гасьцініцы пераначавалі, а назаўтра такі вось лівень быў, як сягоньня. У капусьце нейкай ляжалі ў агародзе, хаваліся. Мы ўжо мелі вызначанае месца, дзе павінны былі пераходзіць граніцу. Пераводзіў нас нейкі гураль, які там жыў, Паляк. Ён быў зьвязаны з нашымі, нашыя яму ўжо далі зарабіць. Ён нас прыняў, пасяліў на гары ў нейкім хляве. Мы там начавалі. А назаўтрае пабудзіў і кажа: «Ідзём!» І мы бягом — да граніцы. Была там рэчка, яе трэба пераходзіць. Мы пачакалі трохі, пакуль вартавы паліцыянт пайшоў і, калі гураль нам сказаў: «Цяпер бягом!», мы ўсе разам і пабеглі. Пераляцелі тую рачулку і ўваліліся на другім баку ў канаву ды нейкі час там ляжалі. Тады наш пераводчык кажа: «Цяпер ужо можаце ісьці». Мы й пайшлі.



*Дэлегацыя беларускіх пісьменьнікаў з БССР зь беларускімі студэнтамі ў Празе ў 1925 годзе. Пісьменьнікі сядзяць, зьлева: Міхась Чарот, Цішка Гартны, Янка Купала, Міхась Зарэцкі. Пётр Орса стаіць другі справа, а каля яго Натальля Сазановіч (Орса). Фота аўтара ўспаміну сп. П. Орсы.*

*Б:* Гэта якою парою году было?

*О:* Было гэтай во парой, увосень.

*Б:* То вам там давялося памерзнуць.

*О:* Мы ў тэй канаве папрастуджваліся. На чэскім баку нас сустрэў другі пераводчык і кажа: «Цяпер прайдзеце пяшком дзьве станцыі: Твардошын і — другой я не памятаю. Мы прайшлі дзьве станцыі і зьявіліся ў чэскі банк, каб вымяняць залатыя грошы на чэскія. Тады інфляцыя была ў Польшчы, і пакуль мы даехалі да граніцы, дык тыя нашы польскія грошы нічога ня былі вартыя. Я ня меў золата, толькі паперкі, а мой калега меў золата. Дык ён мне пазычыў і з чэскім пераводчыкам разьлічыцца, дзесяць рублёў золатам. Добры хлопец быў. Ну, і банк вымяняў нам гэтыя грошы. І паехалі мы далей цягніком да Прагі. Папацёмку знайшлі патрэбную вуліцу, дзе жыў Вяршынін, пазванілі, разбудзілі яго. Жонка ягоная нас абагрэла, мы пераспалі ў іх, а назаўтра пайшлі ў студэнцкі дом. Там заапекаваліся намі ўжо студэнты-Беларусы. Наш прадстаўнік пайшоў да Украінцаў. У Украінцаў прыймала так званых бежанцаў Украінская Хатка. Вось мы й паехалі туды. Там нас прынялі, мы там паелі, папілі, адпачылі. І далей пайшло студэнцкае жыцьцё.

*Б:* А Украінцаў шмат там было?

*О:* Яны там моцныя былі, мелі свой пэдагагічны інстытут з уласнай прафэсурай. У Падабрадах была украінская сельскагаспадарчая акадэмія, былі матуральныя курсы, якія дапамаглі вось гэткім як я, каторыя ня мелі матуры. Ад нас-жа, як казаў, некаторыя ехалі зь незакончанай сярэдняй асьветай, дык яны ўжо ў Празе вучыліся на ўкраінскіх матуральных курсах, атрымоўвалі пасьветчаньні ды кіраваліся на палітэхніку. Чэхі адразу прыймалі. Вось і я цэлы год праву чыўся на матуральных курсах, здаў экзамен і пайшоў на палітэхніку, якую й скончыў. Са стыпэндыямі да 1926 году ня было ніякіх праблемаў. З матуральным пасьветчаньнем можна было ісьці на які-хаця факультэт чэскіх вышэйшых навучальных устаноў.

*Б:* А што сталася ў 1926 годзе?

*О:* Перасталі выдаваць стыпэндыі.

*Б:* Чаму?

*О:* Выдаткавалі тыя грошы, што мелі на гэтую мэту.

*Б:* Валянтын Сельвесюк у беларускім студэнцкім часапісе «Сустрэчы», што выходзіць у Варшаве, піша: «У 1925 годзе чэскі ўрад прызнаў БССР і спыніў стыпэндыі».

*О:* Чэхі то прызналі ўрад БССР, але стыпэндыі ня зусім спынілі, яшчэ былі такія адзінкі, якім яны памагалі вучыцца. Прыкладам, нашаму пазьнейшаму епіскапу Тамашчыку стыпэндыя была дадзеная пасьля 1925 году, калі мяне ўжо ня было ў Празе, і вучыўся ён на палітэхніцы.

*Б:* У якіх галінах беларускія студэнты ў Празе здабывалі веду, апрача малочнае тэхналёгіі, якой займаліся Вы?

*О:* Былі на лясьніцтве, мэдыцыне, прыродавездзе, электрычнай, будаўлянай або дарожнай інжынерыі.

*Б:* А як з гуманістычнымі кірункамі?

*О:* На лінгвістыцы былі Янка Станкевіч, Натальля Сазановіч (будучая жонка майго брата Аляксандра).

*Б:* Колькі было ўсіх беларускіх студэнтаў у Празе? Бо вось той-жа Сельвесюк у «Сустрэчах» піша, што ў 1923 годзе там было больш за 150 асобаў.

*О:* Мажліва. Але-ж не ўсе прызнаваліся Беларусамі. Можа там і 200 было, але некаторыя, відаць, сябе падавалі за Расейцаў. У Празе, трэба ведаць, была вялікая расейская эміграцыя, было нешта каля 18 тысячаў расейскіх студэнтаў. Расейцы мелі свае вышэйшыя школы ў Празе.

*Б:* А як выглядала жыцьцё нашых студэнтаў?

*О:* Спачатку было нядрэнна, у гадох 1922-1924, а ў 1926 годзе пагоршала ўжо.

*Б:* Але перад тым як яно пагоршала, якое яно было? Быў саюз? Былі зборкі?

*О:* Было аб'еднаньне студэнцкае — АБС, Аб'еднаньне Беларускіх Студэнтаў, і, як я казаў, да 26-га году было гарманійнае жыцьцё. Але пасьля таго як нас наведалі госьці зь Менску ў 1925 годзе на чале з Купалам і Цішкам Гартным, і нашы, так сказаць, зьнюхаліся ды арганізавалі прасавецкі кружок, справы пайшлі на горшае.

*Б:* Ці Вы памятаеце сустрэчу з Купалам?

*О:* А як-жа! Памятаю. На гэнай сустрэчы справу ўсю вялі Цішка Гартны й Верамей, адзін з нашых студэнтаў. Кірунак гутарак быў прасавецкі, арыентацыя на БССР. Яны нам казалі: прыяжджайце ў Савецкую Беларусь, у Менск, там разгортаецца беларуская праца. Дык некалькі чалавек запісаліся й паехалі ў Менск — мае калегі, якія пераходзілі граніцу са мною, усе паехалі, і след іхны прастыў.

*Б:* Ці Вы памятаеце прозьвішчы іхныя?

*О:* А чаму-ж не? — Каўцэвіч, Аніськовіч, Шыманко...

*Б:* Яны паехалі ў Менск, скончыўшы ўжо вышэйшую асьвету.

*О:* Так, усе скончыўшы.

*Б:* У 1925 годзе адбылася гэтак званая Бэрлінская канфэрэнцыя, туды Цішка Гартны таксама езьдзіў.

*О:* Памятаю. Ад нас таксама дэлегат быў.

*Б:* Ад студэнцкага саюзу?

*О:* Так. Езьдзіў туды Лаўскі. Калі вярнуўся з Бэрліну, казаў: бяда, нападаюць на нас палітычна, БНР-аўцы варочаюцца ў Менск. І паехалі-ж: Заяц, Пракулевіч, Мамонька, Цьвікевіч, усе паехалі. Не паехаў толькі Крэчэўскі, старшыня Рады, ды Захарка, ягоны сакратар. Яны паўміралі там, у Празе.

*Б:* На гэтай-жа глебе й спрэчка вядзецца: ці ліквідавалася ў 1925 годзе Рада БНР? Але паколькі старшыня Крэчэўскі ня даўзгоды на ліквідацыю ўраду, значыцца юрыдычная цягласьць Рады БНР не перарвалася.

*О:* Правільна.

*Б:* Хто з Прагі паехаў у Менск з тых, што на здымцы?

*О:* Муха, Каўцэвіч, Карповіч, Шавейка.

*Б:* Якое ўражаньне на Вас зрабіў Купала? Што Вам запамяталася з тае сустрэчы зь ім?

*О:* Па-мойму, ён ня быў захоплены і ня надта агітаваў, каб ехалі. Ён быў маўклівы, нічога такога не гаварыў.

*Б:* А хто быў палітычным актывістам у студэнцкай грамадзе?

*О:* Каўцэвіч. Мы прыпушчалі, што ён меў сувязь з савецкім паўпрэдзтвам.

*Б:* Ці Вам засталося ў памяці штонебудзь зь дзейнасьці ўраду БНР у Празе?

*О:* Пару разоў мы сьвяткавалі угодкі Акту 25 Сакавіка ў студэнцкім доме. Прыходзілі Заяц, Пракулевіч, Захарка. Захарка быў асабліва актыўны ў БНР. Захарка ў Празе й памёр, пахаваны на могілках у вёсцы Маджаны. Крэчэўскі-ж пахаваны на Альшанах, праскіх могліцах. Там шмат нашых студэнтаў пахавана.

*Б:* Ці Вы думаеце, што можна было-б знайсьці Захаркаву магілу?

*О:* Помнік стаяў, няўжо-ж яго хто скінуў. Чэхі помнікаў ня ськідалі.

*Б:* Здымак гэты, што Вы далі, ці ён публікаваўся дзе-небудзь?

*О:* Мне казалі, што ён быў зьмешчаны недзе ў савецкім журнале, але майго прозьвішча яны не падалі.

Саўт-Рывэр, лістапад 1987 г.

## АМЭРЫКАНСКА-САВЕЦКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ

У Нью-Ёрку 20-21 студзеня сёлета адбылася амэрыканска-савецкая канфэрэнцыя на тэму «Талстой і Амэрыка». З амэрыканскага боку ў канфэрэнцыі ўзялі ўдзел дасьледнікі з блізу 10 унівэрсытэтаў і навуковых установаў, а з савецкага боку — прадстаўнікі Акадэміі Навук СССР. Да ўдзелу ў канфэрэнцыі былі таксама запрошаныя праф. Том Бэрд і др. Вітаўт Кіпель.

Даклады прафэсара Бэрда і Вітаўта Кіпеля былі прысьвечаныя вывучэньню архіваў філёзафа-пазытывіста Уільяма Фрэя, які шырака ліставаўся з Талстым і талстоўцамі. Праф. Бэрд затрымаўся на філязофскіх мамэнтах у лістох Фрэя ды на ацэне Фрэя Талстым. Др. Кіпель гаварыў пра архівы Уільяма Фрэя, у якіх ёсьць шмат дакумэнтаў, што датычаць да Беларусаў — ліставаньне Фрэя з Судзілоўскім, з талстоўцамі на Беларусі, у Горы-Горках ды ў Вільні. Аналізу гэтае карэспандэнцыі ды пагляда ў першых беларускіх імігрантаў-талстоўцаў у ЗША і было прысьвечанае выступленьне др. Вітаўта Кіпеля.

*З жыцьця ў Клiўлендзе*

## СЛУЦКIЯ ЎГОДКI

Адзначэньне 67-х угодкаў Слуцкага паўстаньня адбылося 6-га сьнежня, якое ладзіў аддзел Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў. У царкве Жыро-

падкрэсьліў патрэбу належнага адзначэньня 70-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Далей былі прадстаўленыя ўкраінскія госьці з Дэтройту ды прачытанае прывітаньне ад старшыні Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў Усходняга Узьбярэжжа маёра С. Гутырчыка.

# 67-ЫЯ ЎГОДКI СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ



*Жаноцкі хор «Васілёк» і кіраўнікі вэтэранаў пасьля ўзлажэньня вянка на сымбалічнай магіле Гэроям Беларусі.*

віцкае Божае Маці па сьв. Літургіі прат. Міхась Страпко адслужыў паніхіду, у часе якое стаяла сьцяжная варта зь беларускім і амэрыканскім сьцягамі (Андрэй Стрэчань і Алесь Каспэровіч). Айцец Страпко сказаў прыгожую казань.

У царкоўнай залі пасьля памінальнага абеду адбылася акадэмія. Адкрыў яе кіраўнік аддзелу вэтэранаў лейтэнант Янка Каваленка, коратка падкрэсьліўшы значэньне Слуцкіх угодкаў, асабліва ў цяперашнім часе, калі беларускі народ на Бацькаўшчыне змагаецца за сваю мову й аднаўленьне гістарычнае памяці. На сцэне, дзе была зробленая сымбалічная магіла, сяброўкі хору Тацьцяна Кананчук і Валя Ягаўдзік, у прысутнасьці кіраўнікоў вэтэранаў, узлажылі вянок на магіле, а жаночы хор і ўсе ўдзельнікі сьвяткаваньня прасьпявалі жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў».

У мастацкай частцы выступіў жаночы хор «Васілёк» зь дзьвюма песьнямі на словы Я. Купалы, музыка М. Куліковіча: «Я ад вас далёка» й «Роднае слова». Праграма закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Сьвята было добра наладжанае, заля была запоўнена, даклад цікавы, за што ўдзельнікі адгукнуліся фінансавай дапамогай на часапіс «Зважай!»

Падзяка тут належыцца кіраўніцтву вэтэранаў, удзельнікам за прысутнасьць, жанчынам за наладжаньне абеду, жаночаму хору «Васілёк» за добры выступ у нацыянальных строях. **К. П.**

### Спатканьне новага Году

Камітэт грамадзкага цэнтру «Полацак» наладзіў 31 сьнежня спатканьне Новага Году. Эва Яраховіч і сям'я Кабякаў добра ўпрыгожылі залю ў Полацку, паставілі ялінку. Імпрэза



*У чаканьні на Дзеда Мароза...*

Галоўным дакладчыкам на акадэміі быў рэдактар часапісу «Зважай!» пісьменьнік Кастусь Акула. Ён расказаў пра падзеі паўстаньня, схарактарызаваў ягоны ўплыў на далейшы ход беларускага руху. Дакладчык таксама падробна спыніўся на цяперашнім змаганьні Беларусаў у БССР за сваю мову ды гістарычную спадчыну, падаў факты зь беларускае й расейскае прэсы, што шмат зацікавіла й спадабалася прысутным.

З прывітаньнем выступіў Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч. Ён падзякаваў за добрае наладжаньне праграмы, заклікаў надалей працягваць гэтую дзейнасьць, а таксама моцна

пачалася супольнай вячэрай, а пасьля пачаліся танцы пад аркестру. У часе перапынкаў сьпявалі народныя й калядныя песьні. Новы Год сустрэлі галасна й весела узаемнымі пацалункамі ды віншаваньнямі ў зьяднаным сямейным настроі старэйшыя, малодшыя й дзеці.

Падзяка належыцца кіраўнікам імпрэзы й жанчынам за прыгатаваньне вячэры: Марыі Шавейка, Олі Стрэчань, Валі Яцэвіч і Андрэю Стрэчаню.

### Ялінка для дзяцей

У нядзелю 3 студзеня пасьля літургіі й абеду ў царкоўнай залі адбылася

---

БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗIНОЧАНЬНЕ
і
АРГАНIЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗI

запрашаюць Вас на сьвяткаваньне 70-х угодкаў абвешчаньня

НЕЗАЛЕЖНАСЬЦI БЕЛАРУСI

ў нядзелю 27 сакавіка 1988 г.

Урачыстая багаслужба адбудзецца ў Гайленд-Парку ў царкве Жаровіцкай Божай Маці (9 Рывэр Роўд), пачатак а 10-й гадзіне ўраньні.

Акадэмія (у форме банкету) будзе ў Нью-Брансьвіку ў гатэлі Гаят-Рыджэнсы (2 Олбаны Стрыт), пачатак а 1-й гадзіне папаўдні.

---

*З жыцьця ў Чакага*

## КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ

Ужо дзясяты год узапар беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага бярэ ўдзел у гэтай калядгай імпрэзе. У гэтым фэстывалі бралі ўдзел аж 42 нацыянальныя групы, выстаўляючы свае ялінкі абоясьлі й даючы праграмы.

стрыі 30-га лістапада для ўдзельнікаў фэстывалю ды запрошаных гасьцей з культурнага й палітычнага сьвету правяла інтэрвію із сп-няй Верай Рамук каля нашай ялінкі, распытваючы пра аздобы на ялінцы ды пра калядныя звычаі на Беларусі. Падобныя гутар-



*Сп-ня Вера Рамук дае інтэрвію рэпартэру тэлебачаньня.*

Калядны фэстываль трываў ад 27-га лістапада 1987 г. да 3-га студзеня сёлета.

Наша ялінка гэтым разам мела крыху іншы характар сваімі арнамэнтамі. Усе аздобы былі вылучна з саломкі, вясёлкавых колераў і розных геамэтрычных фігураў (жырандолькі, падвойныя піраміды, талерачкі, гандолькі, зоркі) ды былі папоўненыя новымі атракцыямі з больш складнымі арнамэнтамі розных формаў, зрыхтаваныя сп-няй Люняй Беленіс.

Адна зь мясцовых тэлестанцыяў у часе прыняцьця ў Музэі Навукі й Інду-

кі адбыліся й зь іншымі групамі ды былі паказаныя пяць разоў у часе калядных сьвятаў.

5-га сьнежня пад кіраўніцтвам сп-ні Веры Рамук была праведзеная калядная праграма на эстрадзе ў музэі, у часе якое др. Роланд Талівэр расказаў пра Беларусь і ейныя калядныя звычаі. Дзяўчаты з хлопцам паказалі на сцэне розныя варожбы. Хор калядоўшчыкаў, пад акампанімэнт а. Язэпа Сыру на піяніне, выканаў шэсьць калядак, якія публіка прыняла бурнымі воплескамі. Частку праграмы запоўніў паказ беларускага культурнага фільму.

Усім удзельнікам праграмы належыцца шчырая падзяка за іхныя стараньні, а менавіта: сёстрам Ані, Любе й Тані Мішчанчук, Тарэсе Тарасэвіч, Валі Лаеўскай, Ніне й Люсі Кулагінавым, Аніце Назорак, Кастусю Кучуру, др. Роланду Талівэру, а. Язэпу Сыру, сп-твам Людовіцы, Гені й Антосю Беленісам за ўбор ялінкі ды сп-ні Еўдакіі Жызьнеўскай, якая, незважаючы на свой век, яшчэ энэргічна дапамагае ўва ўсім, як у прыгатаўленьні дэкарацыяў, касьцюмаў, дый фінансава; дзецям Янку Керу, Мэлісе Сенькевіч і Сэры Ваймак.

Шчыры дзякуй належыцца таксама ўсім ахвярадаўцам.

Трэба выказаць таксама падзяку сп-ні Веры Рамук, што таксама ахвяравала свай час, каб паказаць сябром музэю (на прыняцьці 1-га сьнежня), як робіцца саломкавыя арнамэнты для ялінкі.

**Др. В. Р.**

---

ялінка для дзяцей, якую ладзіла парафіяльная рада. Праграму адчыніў настаяцель а. М. Страпко. Царкоўны хор прасьпяваў трапар Раства Хрыстовага й тры беларускія калядкі. Зь дзяцей выступілі на сцэне 10-гадовая Ліза Энджэла Альдрэтэ-Каваленка і 5-гадовы Майк Гэй-Гарох і паціху прасьпявалі адну зваротку беларускае калядкі «Саўка ды Грышка». Дзед Мароз раздаў усім дзецям падарункі ад парафіі, а таксама шмат ад бацькоў. Праграма закончылася сьпяваньнем беларускіх і амэрыканскіх калядак і супольным абедам.

Ялінка — гэта добрая імпрэза як для дзяцей, гэтак і для старэйшых. Сёлетняя праграма прайшла весела, зь вялікім удзелам дзяцей (усіх каля 30), бацькоў і парафіянаў. Падзяка належыцца парафіяльнай радзе за вялікую працу й добрае наладжаньне.

*(Працяг на 7-й б.)*

БЕЛАРУС № 344 Люты 1988 г.

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## СЛАВЯНСКІ КАНЦЭРТ

У сыботу 30-га студзеня ў Нью-Ёрку ў славутым Лінкольнскім Цэнтры Мастацтваў адбыўся канцэрт славянскіх танцаў і песьняў, як частка традыцыйнага ўжо ўшаноўваньня славянскае культурнае спадчыны (гл. Б-с» № 340 і 342). У канцэрце сярод 10-х славянскіх групаў былі й прадстаўнікі беларускага мастацтва — танцавальны ансамбль «Васілёк» пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана ды сьпявак-саліст зь гітарай Багдан (Данчык) Андрусышын. Заля на тысячу месцаў была перапоўненая. З трох беларускіх народных танцаў (Бароўская кадрыля, Полька Янка й Шапкі) найлепш быў успрыняты танец з шапкамі за ягоны гумар. Данчыка па дзьвюх выкананых ім песьняў («Жураўлі на Палесьсе ляцяць» і «Ручнікі») захопленая публіка выклікала на біс, і сьпявак падарыў ёй яшчэ «Беларусачку».

Леташні й сёлетні славянскія канцэрты выявіліся нагэтулькі папулярнымі, што наступны паказ пастанавілі даць двума сэансамі. На сёлетні ня стала на ўсіх білетаў.

## ДАСЯГНЕНЬНЕ ТАНІ ЗАМОРСКАЙ

Як падала мясцовая газэта «Мангасэт Прэс» (7.I), студэнтка Калюмбійскага Ўнівэрсытэту Таня Заморская (старэйшая дачка сп-тва Мікалая й Веры Заморскіх) трымае вядучае месца ў рэгіянальных спаборніцтвах у плаваньні вольным стылем на 100 і 200 ярдаў. Танін трэнер кажа, што Таня плавае «добра і нагэтулькі інтэлігентна, што мае шанцы стацца чэмпіёнкай на Ўсходняе Ўзьбярэжжа Злучаных Штатаў» ды трапіць на ўсеамэрыканскія спаборніцтвы.

Таня Заморская займаецца на першым курсе Барнардзкага Каледжу, вывучае галоўна ангельскую мову й рыхтуецца да кар'еры праўніка.

## «ВЕСЬНІК»

**Беларускага Каталіцкага Душпастырства № 2(3), Каляды 1987**

У нумары: Крыху пра сутнае і ня зусім сутнае... (Калядны роздум); 988-1988 (да 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі); Блаславёны Юры Матуляйціс-Матулевіч; розныя весткі.

## НОВЫ АДМІНІСТРАТАР ЦАРКВЫ Ў ЧЫКАГА

Кардынал Язэп Бэрнардын прызначыў а. Язэпа Сыру за адміністратара беларускае царквы Хрыста Спаса ў Чыкага. Айцец Сыру яшчэ за часамі нябожчыка Ўладыкі Ўладзімера Тарасэвіча заступаў яго ў багаслужбах, ён цікавіцца беларускімі пытаньнямі, асабліва культурнымі. Айцец Язэп — выдатны музыказнаўца.

(Паводля «Весьніка» Беларускага Каталіцкага Душпастырства № 2(3)).

## КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ЛЁНДАНЕ

1-2-га кастрычніка сёлета ў Лёндане, у царкве сьв. Пятра й Паўла ў Доме Марыянаў, адбудуцца ўрачыстасьці адзначэньня 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі. У тым самым часе ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны будзе праведзеная канфэрэнцыя на тэму «Хрысьціянства й Беларускі Народ».

*З жыцьця ў Гайленд-Парку*

## УГОДКІ СП. А. СТАГАНОВІЧА

2-га студзеня сёлета прыхаджане царквы Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд-Парку, сябры БАЗА, Рады БНР, асабістыя прыяцелі сп. Аляксандра Стагановіча адзначылі 98-я ўгодкі ягонага жыцьця ды шматгадовае грамадзкае й палітычнае дзейнасьці. Быў адслужаны малебен за ягонае здароўе.

Аддзел БАЗА на гэты дзень зладзіў супольны абед, да ўдачы якога выдатна спрычынілася сп-ня Зіна Туронак сваім кулінарным мастацтвам, цудоўнымі піражкамі.

Сп. А. Стагановіча віталі з днём нарадзінаў старшыня галоўнае ўправы БАЗА сп. Антон Шукелайць, ад імя сэктару Рады БНР сп. Янка Азарка ды ад імя аддзелу БАЗА сп. Міхась Тулейка, які расказаў пра нялёгкі жыцьцёвы шлях юбіляра, якому ўдзельнікі ўрачыстасьці дружна прасьпявалі «Многая лета».

## ДАКЛАД ПРА СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ

Па ўшанаваньні дня нарадзінаў сп. Стагановіча сп-ня Галіна Русак прачытала рэфэрат (з высьвятленьнем каляровых слайдаў) пра слуцкія паясы. Гэта быў скарочаны варыянт англамоўнага дакладу на тую-ж тэму, які дакладчыца прачытала студэнтам і выкладчыкам Вышэйшае Школы Мастацтва Ратгерскага ўнівэрсытэту. Даклад быў вельмі інфарматыўны й добра пабудаваны. Дакладчыца расказала-паказала, як слуцкія паясы, вытворчасьць якіх была прынесеная з Пэрсіі, набывалі ў беларускіх «пэрсіярнях» элемэнты беларускае расьліннасьці ды як пасьля страцілі яе, калі вытворчасьць была перанесеная ў Польшчу. Дакладчыца гаварыла таксама пра ролю й значэньне пояса наагул у беларускай народнай вопратцы.

## БЕЛАСТОЦКАЕ ТРЫЁ

Па дакладзе сп-ні Г. Русак трох беластаччанаў выканалі пад акардыён тры песьні: «Люблю Беласточчыну», «Партызанскую» ды жартаўлівую «Ты-ж мяне падвяла», а тады цэлай заляй (асобаў 70) — традыцыйную і ўлюбёную «Люблю наш край».

Сп. Лёва Стагановіч падзякаваў за ўвагу да ягонага бацькі ды паінфармаваў, што збор грошай на пабудову Сьвятадухаўскае царквы ў Беластоку й Беларускага музэю ў Гайнаўцы праводзіцца далей.

Сп. Пётра Кажура, старшыня аддзелу БАЗА, які арганізаваў імпрэзу, падзякаваў сп-ням Зіне Туронак і Надзі Сапяжынскай за іхную працу ў буфэце.

**Я. З.**

## БЕЛАРУСКАЕ ПАХОДЖАНЬНЕ ЖОНКІ УЛ. ВЫСОЦКАГА

Шыракаведамы расейскі паэт і бард Уладзімер Высоцкі быў жанаты з францускай кінаактО́ркай Марынай Уладзі (Vladi). Бацька Ўладзі паходзіў зь Беларусі, як пра гэта падала БЕЛТА («Сельская газета», 27.I.88).

«З Горадзеншчынай, — піша «СГ», — паэта (г. зн. Ул. Высоцкага) зьвязвала праца ў кіно, стварэньне песьняў для дзьвюх істужак «Беларусьфільм». А калі Марына Ўладзі сталася ягонай жонкай, яны амаль кожнае лета прыяжджалі ў Навагрудак, адкуль быў родам бацька Марыны Ўладзімераўны. Тут, ля ціхага возера Сьвіцязь, нараджаліся песьні Ўладзімера Высоцкага».

*З жыцьця ў Дэтройце*

## ДВА ЮБІЛЕІ

Парафіяне царквы Сьв. Духа адзначылі 22-га лістапада летась 45-я ўгодкі шлюбу **сп-ства Кляры й Міколы Кумэйшаў,** заснавальнікаў парафіі й адданых працаўнікоў на беларускай грамадзкай ніве ў Дэтройце. Сп-ства Кумэйшы ўзялі шлюб 10 лістапада 1942 г. ў Ляхавічах. Жыцьцё ня было лёгкім: вайна, лягеры ў Нямеччыне, вуглякопныя шахты ў Бэльгіі, часовае пасяленьне ў Канадзе ды ўрэшце эміграцыя ў ЗША. Прыбыўшы ў Дэтройт, сп-ства Кумэйшы актыўна ўлучыліся ў беларускае рэлігійнае й грамадзкае жыцьцё, сп. Кумэйша быў старшынём аддзелу БАЗА, а таксама адным з будаўнікоў прыгожага іканастасу ў царкве Сьв. Духа. Сп-ня Кумэйша ўвесь час працавала й працуе над упрыгожаньнем царквы, пашыла для сьвятара рызы. Мікола й Кляра Кумэйшы сьпяваюць у царкоўным хоры. За іхнае здароўе а. Аляксандар Радэнковіч адслужыў малебен з нагоды іхнага юбілею.

Якраз на гэты час прыпалі **70-я ўгодкі ад нараджэньня а. Радэнковіча,** у сувязі з чым царкоўная рада й шматлічныя госьці пажадалі яму шмат памыснасьці ў асабістым жыцьці ды ў служэньні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

У гонар юбіляраў адбыўся ў царкоўнай залі супольны абед.

**В. П.**

## ПАНІХІДА

20 сьнежня 1987 г. а. Міхась Страпко адслужыў паніхіду па нядаўна памерлай **сьв. пам. матушцы Вользе Стар.** На паніхідзе былі ўсе парафіяне, госьці, прыяцелі сям'і а. Карпа Стара, каб аддаць пашану нябожчыцы за ейную ахвярную працу на дабро БАПЦ, а а. Карпу й ягонай сям'і выказаць свае найглыбейшыя спачуваньні ды пажаданьні ператрываць вялікае гора.

**Парафіяльная Рада**

## ПАДЗЯКА

Атрымаўшы вялікую колькасьць спачуваньняў з прычыны сьмерці мае спадарожніцы жыцьця (53 гады) матушкі Вольгі, я ня ў сіле падзякаваць кожнаму асобна. Дзеля гэтага вось я перасылаю праз газ. «Беларус» сваю шчырую падзяку ўсім, перш-наперш за малітвы, а таксама за спачуваньні, пісьмовыя й вусныя, а таксама за розную дапамогу.

Шчыра-шчыра дзякую ўсім.

Дораты, 30.I.1988 г.

**Мітр. Прат. Карп Стар**

## ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Як падала выдаваная ў Амэрыцы польская газэта «Гвязда Полярна» (16.I.88), на паседжаньні польскага эміграцыйнага ўраду 7 сьнежня летась «абмяркоўвалася разьвіцьцё супрацоўніцтва зь Беларусамі». Зь якімі Беларусамі, не сказана. Польскі эміграцыйны ўрад знаходзіцца ў Лёндане.

## СТРАТА АРЫЕНТАЦЫІ

Італьянская газэта «Аванты» (27.I.88) падала пра ліст аднае жыхаркі Менску ў газэту «Правда». 30-гадовая маці трох дзяцей напісала, што пасьля выкрыцьця апошнімі месяцамі фактаў рэпрэсіяў, злачынстваў, яна, маці трох дзяцей, ня ведае, на якіх пазытыўных прыкладах выхоўваць цяпер сваіх дзяцей.

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## КУЦЬЦЯ. НАВАГОДНІ БАЛЬ

**Адэляйда, Аўстралія.** — Традыцыйная супольная куцьця адбылася тут 6-га студзеня. У царкву прыйшло даволі шмат людзей, хоць дзень быў нагэтулькі гарачы, што сьвечкі круціліся ад тэмпэратуры (35 гр. Цэльсія). Па вячэрні ў прыцаркоўнай залі за прыгожа й багата прыгатаванымі сталамі з поснаю стравою а. Міхась Бурнос бласлaвіў куцьцю (зрыхтаваную сп-няй Верай Віцанін), сказаў малітву. Калі падсілкаваліся ўжо, хор і прысутныя прасьпявалі дзьве калядкі. Прыйшоў з падарункамі Дзед Мароз, які расказаў як цяжка яму было дабірацца ў гарачую Аўстралію. Было шмат сьмеху й радасьці. Хор выканаў яшчэ колькі калядак. Усё гэта трывала да поўначы.

Новы Год паводля старога стылю Беларусы Адэляйды сустрэлі балем 13-га студзеня, які прайшоў вельмі ўдала, незважаючы на гарачае надвор'е. На балі было многа прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў.

**У. Акавіты**

## ЗЬЕЗД «НЕФАРМАЛАЎ

«Нефармалы» — гэта нефармальныя аб'еднаньні савецкае моладзі, свайго роду адмоўная рэакцыя на камсамол. Азначэньне «нефармальны», пісала газ. «Сов. Белоруссия» (1.X.87), бліжэй за ўсе стаіць да паняцьця «незарэгістраваны ў афіцыйных органах», «узьніклы на хвалі маладзежнай ініцыятывы, зьнізу». Паводля накаторых савецкіх экспэртаў, каля 70% моладзі належыць цяпер да «нефармалаў».

У Беларусі ведамыя гэткія «нефармалы», як «Узгор'е» ў Віцебску, «Паходня» ў Горадні, «Край» у Берасьці, «Повязь» у Воршы, «Талака» ў Гомелі, «Маладзік» у Полацку, а ў Менску: «Талака», «Тутэйшыя», «Нашчадкі», «Скарыніч», «Галіна», «Няміга» ды іншыя. Усё гэта патрыятычныя групы моладзі, пішучы пра якія газэта «Сов. Белоруссия» (2.X.87, другая частка артыкулу А. Майсені пад. заг. «Хто яны, 'нефармалы'?») прызнавалася:

«Сёньня, як ніколі раней, адчуваецца патрэба ў шырокай, максымальна адкрытай для зацікаўленае грамадзкасьці навуковай дыскусіі аб праблемах гісторыі беларускага народу, ягонай культуры, мовы. Прамаруджаньне прыняцьця прынцыповых пастановаў аб праблемах, якія накапіліся й болем адклікаюцца ў сьведамасьці патрыятычна настроенае моладзі, можа толькі ўзмоцніць нацыянальна-абмежаныя пазыцыі вузкога кола 'дзеячоў', якія пад сьцягам разьвіцьця дэмакратыі й аднаўленьня гістарычнае праўды ўзмоцнена насаджваюць ідэі, што нічога агульнага з дэмакратыяй ня маюць...»

Але моладзь, згуртаваная ў «нефармалах», відаць, ня надта згодная чакаць на «прынцыповыя пастановы аб праблемах, якія накапіліся». Яна хоча дзеяць сёньня. Як даведваемся з прыватных крыніцаў, 26-27 сьнежня летась у вёсцы Палачаны пад Менскам адбыўся зьезд («Вальны сойм» — «ЛіМ», 18.XII.87) нефармальных арганізацыяў моладзі, што стаўся дэманстрацыяй шырокага патрыятычнага руху.

Як падала зь Менску амэрыканская газэта »Філядэльфія Інкўайрэр» (27.I), у зьезьдзе ўзяло ўдзел каля 30 групаў. Удзельнікі зьезду, піша «ФІ», выставілі свае прапановы што да беларускае мовы ды паслалі іх у рэспубліканскія міністэрствы.

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры*

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

29 лістапада 1987 г. ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры сабралася ладная колькасьць Беларусаў, каб адзначыць угодкі Слуцкага паўстаньня. Прынагодны рэфэрат прачытаў сп. Віталі Цярпіцкі. Паэты Янка Золак і Міхась Кавыль прадэклямавалі патрыятычныя вершы. Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну, пасьля чаго ўдзельнікі доўга не расходзіліся, праводзячы час у гутарках.

**31 сьнежня 1987 г.,** незважаючы на няспрыяльнае надвор'е, зьехалася каля двухсот асобаў у Грамадзкі Цэнтар, каб спаткаць Новы Год. Тост-мастэрам быў сп. Міхась Бахар. Прафэсійна грала амаль да самай раніцы аркестра Івана Альхоўскага. Пад акампанімэнт аркестры выступіў із сваім рэпэртуарам і заслужыў на бурныя аплядысмэнты за патрыятычныя песьні й цудоўны голас Пятро Звонны. Што было далей, ня трэба, хіба, пісаць, Не здарма-ж чуліся галасы: «Спаткаемся ў наступным Новым Годзе…»

**6-га студзеня г.г.** сястрыцтва пры царкве імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай пад старшынствам мастачкі Ірэны Дутко наладзіла супольную куцьцю. Заля Беларускага Цэнтру была поўная прыхаджанаў. Не аднаму мне застольле прыгадала далёкае мінулае, калі ў роднай хаце сядзелі за сталом, смакавалі гарачую пахкую куцьцю, а дзед альбо бацька стукаў у замёрзлае вакно і гукаў: «Мароз, мароз, ідзі куцьцю есьці». Ніхто гэтых слоў у залі не сказаў, а варта было-б. Затое прыемна было бачыць, як сынок Сьцяпана Наумчыка вярцеў на кійку «зорку», умела змайстраваную пратадыяканам Алегам Махнюком, зь ня меншай прыемнасьцю слухаліся калядкі, выкананыя царкоўным хорам пад кіраўніцтвам рэгента Аўгена Скаўронскага.

Дзякуй вам, сястрыцы, за прыемнае сьвята куцьці.

**17-га студзеня** ў залі Грамадзкага Цэнтру зелянела й зіхцела рознымі колерамі ялінка. Сьвятар царквы імя Еўфрасіньні Полацкай Мячыслаў Брынкевіч коратка азнаёміў шматлічных прысутных зь гісторыяй і значэньнем «ялінкі». Маленькія дзеці мала што разумелі з таго, што чулі, але слухалі, ловячы кожнае слова сьвятара. Вочкі іхныя зіхцелі, як тыя ўпрыгожаньні на ялінцы.

Зьявіўся неўзабаве і Дзед Мароз (Сьцяпан Наумчык) зь вялікім мехам на плячы, дзетвара акружыла яго, чакаючы на падарункі. Але Дзед Мароз быў скупы, дарэмна не раскашэльваўся, а патрабаваў, каб дзеці заслужылі на падарункі: нешта прасьпявалі ці прадэклямавалі. Тады на падмостках зьяўляліся дзяўчаткі й хлопчыкі ды дэклямавалі вершыкі, якія навучыў іх а. Мячыслаў. Дэкляматары путаліся, забывалі словы, але, пастаяўшы крыху, прыпаміналі і, адмучыўшыся, задаволеныя давалі месца ля мікрафону наступнаму «артысту». Тых, хто ня трапіў у «артысты», лавіў за руку Дзед Мароз і, прыцягнуўшы да мікрафону, які яму перадалі з падмосткаў, казаў: «Прасьпявай, што ўмееш, тады дастанеш падарунак».

Калі дзедаў вялікі мех апаражніўся, дзетвара пачала патрашыць падарункі, а іхныя бацькі ўзяліся за перакуску, падрыхтаваную сястрыцтвам.

На заканчэньне шумнае й вясёлае ялінкі царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента Аўгена Скаўронскага прасьпяваў колькі калядак.

**М. К.**

*З жыцьця ў Кліўленьдзе*
*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

### Супольная куцьця

У сераду ўвечары 6 студзеня 1988 г. па багаслужбе адбылася у царкоўнай залі супольная куцьця, якая была прыгатаваная больш у беларускай традыцыі. У куце каля сцэны стаяла прыбраная ялінка, стол быў накрыты сенам і на ім расстаўленыя 12 посных страваў з запаленымі сьвечкамі. Настаяцель М. Страпко паблагаславіў куцьцю, а царкоўны хор з прысутнымі (каля 60 асобаў) прасьпявалі трапар. У часе вячэры дзяліліся ўспамінамі аб тым, як ладзілі куцьцю ў розных мясцовасьцях Беларусі. Пасьля сьпявалі ўсе разам беларускія й амэрыканскія калядкі. Настрой быў радасны, сьвяточны.

Вельмі добра, што настаяцель і парафіяльная рада працягваюць гэтую традыцыю. Усім ім належыцца падзяка, а таксама тым, хто прыгатаваў вячэру: Валі Яцэвіч, Андрэю Стрэчаню, Олі Стрэчань і Валі Ягаўдзік.

### Дзень Калядаў

У чацьвер 7 студзеня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці была ўрачыста адслужана калядная Літургія. Хоць дзень быў працоўны, аднак шмат хто не пайшоў на працу й сьвятыня была поўная вернікаў, а царкоўны хор у поўным складзе прыгожа выканаў калядныя напевы. У канцы службы прат. М. Страпко сказаў прыгожую казань і прачытаў калядная пасланьне Першагіерарха БАПЦ Архіепіскапа Мікалая. Пасьля службы ў царкоўнай залі адбыўся супольны абед, сьпявалі калядныя песьні, і вясёлае калядная застольле трывала да вечара.

**К. П.**

### *Новагодняе пажаданьне*

Праз ветлівасьць Рэдакцыі «Беларуса» я зьвяртаюся да праваслаўных Беларусаў Нью-Ёрку з просьбай не называць царкву Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд-Гіле «царквою Мерляка».

Калі хтось не адчувае патрэбы наведваць царкву, дык для апраўданьня самога сябе перад тымі, хто наведвае, кажа, што «ў Мерлякову царкву» яму не выпадае хадзіць. Калі-б гэтак было ў сапраўднасьці, дык, бязумоўна, не выпадала-б паніжаць самога сябе, наведваючы нейкую там прыватную царкву.

Царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд-Гіле, якая знаходзіцца пад апекай Усяленскага Патрыярха, пабудаваная, упрыгожаная і ўтрымоўваецца беларускімі вернікамі, якія ўлажылі нямала цяжка заробленых грошай, незьлічоныя дні працы зь любоўю да свае рэлігійнае спадчыны і ўсяго свайго роднага. Дык не выпадае пазбаўляць належнай пашаны й адбіраць пачуцьцё асабістага гонару ад усіх тых, што спрычыніліся да існаваньня гэтае царквы пасярод чужога й свайго бурлівага рэлігійнага мора.

З Новым 1988 Годам! Хай Усемагутны пашле больш рассудку тым, хто здольны спрычыніцца да дабра Беларускаму грамадзтву.

**Кастусь Мерляк**

Нью-Ёрк, 1 студзеня 1988 году.

## *НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД*

*Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва атрыманыя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Др. У. Набагез | ам.д. 100 |
| А. Асіпчык | 50 |
| В. Кажан | 25 |
| Я. А. | 25 |
| Д. Касмовіч | 20 |
| Б. Лішчонак | кан.д. 25 |

# З МАЙГО ПАДАРОЖЖА ПА ЗША

*(Пачатак гл. у № 340)*

Едзем далей, але ўжо не на захад, на ўсход. Спачатку ўздоўж Вялікага Каньёну аж да Desert View, дзе апошні раз захапляемся вялічэзнай панарамай і апошні раз бачым зялёную або часамі, здаецца, і блакітную істужку Калярада. Шмат турыстаў. Першы раз угледзеў тут Амішаў, Амэрыканцаў нямецкага паходжаньня з Пэнсыльваніі, што іміґравалі сюды, хіба-ж, у XVIII стагодзьдзі. Аддзяліўшыся ад людзкога наваколься, яны й да сёньняшняга дня захавалі сваю старую мову й звычаі. Жанчыны ў сініх блюзках і даўгіх, да пят, спадніцах. На галаве чапец. Мужчыны, маладыя й старыя — барадатыя, у цёмна-сініх камізэльках, доўгіх нагавіцах. Галовы пакрытыя капялюшамі. Хоць я аб іх і ведаў крыху раней, аднак бачыць іх у рэчаіснасьці выклікае зьдзіўленьне, а адначасна й сымпатыю. Вось людзі, што ня цураюцца свайго.

Пакінуўшы Desert View, едзем у кірунку Камэрону. Дарога маляўнічая, горная, лясістая. Сёньняшні этап — Мэса Вэрдэ. Па левым баку дарогі відаць здалёк Даліна Манумэнтаў (Monument Valley) зь яе вялізарнымі ветрам і даждžом выробленымі статуямі й рознымі калёнамі. Не даяжджаючы пару міляў да нашай мэты, у Картэзе, захапіла нас бура. Неба сінячорнае, бесьперастанныя зыгзагі маланак, гром, вецер, вялікі дождж. Давялося заначаваць у Картэзе. Назаўтра дарога ў Мэса Вэрдэ аказалася заваленая камянямі з навакольных гораў, занесеня балотам. але ўжо ўсё правілася, чысьцілася.

Нацыянальны парк Мэса Вэрдэ — вялізарнае плято, што дамінуе над нізінамі Мантэзума й Манкас. Яно перахоўвае тысячагадовыя руіны Індыянаў. Сёньня называюць народ, што засяляў глыбокія каньёны Мэса Вэрдэ — Анасазі, ад слова «старыя» ў мове індыянскага племені Навахо. Толькі руіны гэтак званых Cliff dwellings (жыльля над абрывам) ды знойдзеныя гаспадарчыя прылады сьветчаць сёньня пра цывілізацыю, культуру й жыцьцё «Старых». З усяго відаць, што Анасазі, якія жылі ў гэтак званым Раёне Чатырох Кутоў — зьбег лініяў, што разьдзяляюць штаты Юта, Арызону, Новую Мэксыку й Калярада — былі ўжо тут спадкаёмцамі багатай і тонкай культуры старой Амэрыкі. У Мэса Вэрдэ, выкарыстоўваючы ўсе прыродныя магчымасьці, Індыяне будавалі свае селішчы-гарады ў каньёнах, пад навесамі скалаў. Дамы з камянёў, паверхавыя. Пакоі па шэсьць на восем футаў. Здабываньне ежы было галоўным заняткам гэтага народу. Паляваньне й сельская гаспадарка гралі вялікую ролю. Захаваліся амаль усе прылады штадзённага жыцьця. Добра захаванае ня толькі жыльлё, але й цырыманьяльныя падземныя пакоі «Ківа». Тут наладжваліся малітвы за выздараўленьне, дождж, ураджай, удачу на паляваньні, тут адбываліся й грамадзкія сходы. Уваходзілася ў іх сходкамі-лескамі, што стаялі ў маленькім адкрыцьці ў цэнтры. Дзірка ў каменнай падлозе — уваход у падземны сьвет. Селішча Мэса Вэрдэ апусьцела, зь нявედамых прычынаў, каля 1300 г. новай эры.

Вялі й вельмі багаты музэй захоўвае ўсе цікавыя знаходкі быту Анасазі. Усё гэта пакідае глыбокае ўражаньне, выклікае пачуцьцё сымпатыі да тых народаў, што пакінулі па сабе такія помнікі.

Падарозе ў Дэнвэр мы затрымаліся яшчэ ў двух месцах. Royal Gorge. Глыбокі каньён, а над ім самы высокі ў сьвеце падвешаны мост. Нагэтулькі всокі, што нашая праваднічка Галіна — яна-ж туды нас і завезла — пабаялася па ім ісьці. Сапраўды пад нагамі адчуваецца кожны крок. Унізе пропасьць. На шчасьце, мост аказаўся ўсё-ж-такі салідным, а Васіль і я — «сьмелымі»!

Калярада-Спрынгс. Акадэмія Паветраных Сілаў ЗША. Акадэмія рыхтуе маладых і матываваных хлапцоў і дзяўчат да службы ў паветраных сілах. Зьведваць і фатаграфаваць можна амаль усё. Нездарма акадэмія сустракае наведніка надпісам — «Ваша Акадэмія». Вось дзе лучнасьць арміі з народам. Для мяне найцікавейшым аб'ектам была капліца. Сямнаццаць сонцам апрамененых алюміневых стромкіх аркаў. Каляровыя вітражы надзвычайна асьвятляюць нутро й алтар капліцы.

Вось мы ізноў у Дэнвэры. Нашае падарожжа на паўдзённы захад закончылася. Застанцца толькі ўспаміны, напэўна прыгажэйшыя, як гэта апісана. Бо ці можна апісаць усё, што бачыш, асабліва што адчуваеш, захапленьне ўсім велічным, прыгожым? Словы здрадзяць думкам, а пачуцьці ня зьмесьцяцца ў словах! Застанецца крыху й жалю. Жаль, што нашчадкі народаў, якія ня так даўно засялялі гэтыя мясьціны й пакінулі па сабе велічныя помнікі, расьсеяны па пустынных месцах, так непадобных да селішчаў іхных прашчураў. Выраблюць яны цудоўныя ювэлірныя рэчы, гліняныя вырабы з паліхронным прыгожым вузорам. Некаторыя плямёны, як Гопі, выраблюць яшчэ «качыны» (kachina) — лялькі (ня цацкі), у якіх паселеныя звышпрыродныя духі іх продкаў. Гэтыя мастакі часта прыцягваюць руку па доляр. На пражыцьцё ці на віскі, ня ведаю. Сумнае ўражаньне. Хоць яго ня хутка выкрасьліш з памяці, аднак усё тое прыгожае, велічнае, створанае прыродаю або людзкімі рукамі застанецца незабыўным.

**А. Арэшка**

*(Працяг у наступным нумары)*

# *«НАША НІВА» ПРА «ПЕРАБУДОВУ» АСЬВЕТЫ*

Прайшло год зь нечым ад часу, калі ў беларускім савецкім друку пачалі зьяўляцца артыкулы, лісты ў рэдакцыю, нататкі аб стане беларускай мовы ў БССР. З друку выявілася, што стан беларускай мовы куды горшы, як можна было прыпушчаць. І дзеля гэтага варта прыгадаць, што аб беларускай мове пісала газэта «Наша Ніва», першы нумар якое выйшаў 10.XI.1906 году.

**У перадавіцы другога нумару «Наша Ніва» пісала:** «Першы нумар нашай маленькай газэткі зрабіў шмат шуму ў нас на Белай Русі і ў суседзтве з ёю. Да рэдакцыі пасыпаліся пісулькі, пісьмы. З розных старон даляцелі крыкі, што газэта выдаваная па-беларуску саўсім непатрэбна, што гэту газэту ляпей было-бы выдаваць, як адны кажуць, папольску, другія — парасейску, бо беларускі язык, кажуць, мёртвы, яго ня варта падымаць з магілы. Адказваць на гэта доўга не будзем — мы пастанавілі друкаваць газэту на языку 'тутэйшым' — беларускім. Гэты язык ня мёртвы, на ім гаворыць каля 10 мільёнаў народу…».

**«Наша Ніва» 29 сакавіка 1907 году:** «Толькі бліснулі дні свабоды, як усе народы Расеі на першае месца паміж многіх дамаганьняў паставілі трабаваньне нацыяналізацыі школы. І мы думаемо, што яны зрабілі гэта не па

*(Працяг на 8-й б.)*

## СЬВ. ПАМ. † МІХАЛІНА ТАТАРЫНОВІЧ

**1.XI.1908 – 15.XII.1987**



Сьветлай памяці Міхаліна Татарыновіч нарадзілася ў в. Гайнін Ляхавіцкага раёну. У перадваенных гадох у Вільні працавала самаахвярна ў маладзежных беларускіх арганізацыях і належала да студэнцкага беларускага хору. Скончыла Беларускую гімназію ў Вільні, вывучала францускую філялёгію. Па вайне лёс закінуў яе ў Аўстрыю, адкуль удалося вярнуцца ў Польшу, дзе працавала ў гор. Остраудзе клеркам у банку. Была добрай хрысьціянкай, да канца жыцьця кіравалася глыбокім беларускім патрыятызмам і была асобай вялікіх маральных якасьцяў.

З глыбокім сумам паведамляем пра сьмерць Міхаліны і выказваем шчырыя спачуваньні сваяком памерлай. Вечная Памяць.

**Сябры**

## СЬМЕРЦЬ МАСТАКА

Аляксандар Ісачоў, «неафіцыйны» мастак з Рэчыцы, пра якога расказаў у «Беларусе» № 315 (студз. 1984) Валеры Канавалаў, памёр 4-га сьнежня летась, не дажыўшы да 33 гадоў.

«У сваёй творчасьці, — пісаў Канавалаў, сам мастак, — Ісачоў здолеў дасягнуць такога тэхнічнага майстэрства, якое можна было параўнаць толькі з майстэрствам мастакоў Рэнэсансу. Больш за ўсё Ісачоў пісаў творы на сюжэты Біблії ды Евангельля, а таксама рабіў цудоўныя партрэты».

За тры тыдні да сьмерці Ісачова газэта «Зьвязда» зьмясьціла артыкул пра яго пад заг. «Майстар і Афрадыта, або Аб няпростым лёсе беларускага мастака». У артыкуле пісалася, як бяздушныя савецкія бюракраты труцілі жыцьцё Ісачову, бо ён не ўкладаўся ў казённыя рамкі сацрэалізму. Прыгэтым, пэўна-ж, «Зьвязда» не абыйшлася без абвінавачваньня «заходняе прапаганды» й «заходніх радыёгаласоў». «Зьвязда» (17.XI.87) пісала:

«Ня маючы магчымасьці на роўных канкураваць з членамі Саюзу мастакоў, Аляксандар Ісачоў вымушаны быў збываць свае карціны прыватным спосабам. Да яго пачалі часта наведвацца іншаземцы і тыя, хто выношваў пляны аб эміграцыі... Такім чынам на Захадзе аказалася некалькі соцень карцін Аляксандра Ісачова».

Валеры Канавалаў, які быў вучнем Ісачова, расказвае:

«Аляксандар Ісачоў за пэрыяд 1978-1979 гадоў разам са сваймі памочнікамі зь ліку вучняў расьпісаў дзьве царквы: у Рэчыцы і ў Мазыры. Спадзяваўся атрымаць заказы і на іншыя росьпісы цэркваў, але, не бяз умяшаньня органаў, царкоўныя заказы былі спыненыя. Шмат дапамагаў Ісачову Беларускі, а пасьля Ленінградзкі мітрапаліт, нябожчык Антоні. Даваў яму заказы на іконы або купляў тыя з твораў на рэлігійныя тэмы, што яму падабаліся. У тым часе Ісачоў намаляваў дзьве вельмі прыгожыя іконы — сьв. ігуменьню Еўфрасіньню, князёўну Полацкую, ды абраз Жыровіцкае Божае Маці, якія й да сёньня знаходзяцца ў рэчыцкай царкве».

## *«НАША НІВА»*

*(Заканчэньне зь 7-й б.)*

простаму здарэньню, а глыбока і з усіх старон абдумаўшы свае патрэбы... I самым першым і канечне патрэбным варункам для народнага прасьвятленьня ёсьць нацыянальная школа, гэта значыць, што ў школе павінны вучыцца роднае мовы, і ўсе навукі павінны тлумачыцца панятнаю гутаркаю, а калі дзеці добра навучацца пасвойму, то ім лягчэй будзе вывучыць і ўсякую другую гутарку. Толькі тады народная прасьвета станець на цьвёрдым груньце,.. як школа ў нас будзе нацыянальная... Пара і нам сказаць сваё слова, патрабаваць беларускай школы».

**«Наша Ніва» 23 лістапада 1907 году:** «Наша Ніва» гаворыць да Беларуса на роднай мове. Нашая мова як і ўсякая другая ёсьць мова чалавека, на каторую ён мае сьвятое права. Гэтым ніхто не забараняе Беларусу знаць мову суседніх нацый — расейскую і польскую...»

**«Наша Ніва» 15 красавіка 1907 году:** «Нам трэба дамагацца беларускай школы, каб дзеткі нашы маглі вучыцца на роднай мове, каб яны ведалі, што яны Беларусы. Пара і нам сказаць сваё слова, патрабаваць беларускай школы. Але ці адкрые правіцельства беларускія школы, гэта яшчэ вялікае пытаньне. А калі і адкрые, то яны будуць такія-ж дрэнныя, як і ў Польшчы або Літве. Дзеля таго, ці не ляпей нам пастарацца самым адкрыць нашы беларускія вучылішчы, ці не ляпей арганізаваць суполку 'Матку Беларускую'. Тады будуць у нас добрыя школы, тады будзем вучыць так, як нам пакажацца ляпей».

Гэтаксама газэта «Наша Ніва» дамагалася каб і настаўніцтва на Беларусі было адпаведнае, каб падрыхтоўка настаўнікаў прадбачала веданьне беларускае мовы.

Цікава, што пішучы аб настаўніках, «Наша Ніва» ў 1907 годзе гаварыла й аб перабудове — «перастройцы». Газэта пісала 21 чэрвеня 1907 году: «25 мая ў горадзе Вільні адбыўся зьезд народных беларускіх вучыцялёў. Зьезд уфундаваў Беларускі Вучыцельскі Саюз. Саюз ставіць сваёй мэтай: перастройку дзела народнага абразаваньня на шырокіх дэмакратычных пачатках дзеля карысьці народа, каб падняць яго грамадзкае самапазнаньне; уводзіць у школу абучэньне на роднай беларускай мове; дабівацца незалежнасьці школы і вучыцеля ад рознага начальства, а дзеля гэтага трэба, каб самыя вучыцялі выбіралі ад сябе свае камітэты і каб гэтыя камітэты наглядалі за працай вучыцеля ў школе».

### «ГАЛОСНАСЬЦЬ» ПРЫХОЎВАЕ РЭПРЭСІІ

Карэспандэнт тарантаўскае газэты «Таронта Сан» Боб МакДональд (зь якім кантакты трымае сп. К. Акула), у артыкуле пад заг. «Галоснасьць прыхоўвае крой і калючы дрот», зазначыў, што пяцісоттысячная армія КДБ, разам зь перасьледам Гэбрэяў у Савецкім Саюзе, перасьледуе таксама «дзясяткі тысячаў Эстонцаў, Латышоў, Літоўцаў, Украінцаў, Беларусаў, Грузінаў, Казакоў, Армянаў ды, так, Расейцаў». («Таронта Сан», 8.XII.87).

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдне ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| В. Сядура | ам.дал. 100 |
| Э. Жызьнеўская | 100 |
| М. С. | 100 |
| А. Кіпель | 75 |
| М. і В. М. | 50 |
| В. Рамук | 50 |
| С. Стаськевіч | 45 |
| Ю. Рэпэцкі | 20 |
| Т. Бэрд | 20 |
| Я. Юхнавец | 15 |
| А. Стукаліч | 15 |
| П. Грыгальчык | 10 |
| а. К. Стар | 10 |
| М. Каленік | 20 |
| Усяго | 555 |

*Праз сп. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Б. Даніловіч | ам.дал. 50 |
| Т. Кольба (з нагоды 98-год. нарадж. бацькі) | 50 |
| К. Ворт | 30 |
| В. Валаткевіч | 30 |
| Н. Кудасава | 30 |
| М. Абрамчык | 20 |
| Г. Гэзьвіг | 20 |
| М. Каранеўскі | 20 |
| К. Колбік | 15 |
| В. Макац | 15 |
| Т. Кольба | 15 |
| П. Нядзьведзкі | 15 |
| В. Ярашэвіч | 10 |
| А. Кажура | 10 |
| Усяго | 330 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

*Ад сп. М. Баяроўскага:*

| | |
|---|---|
| М. Баяроўскі | анг.ф. 20 |
| Я. Міхальчык | 20 |
| В. Карніловіч | 15 |
| П. Мятла | 10 |
| П. Грыгальчык | 5 |
| Усяго | 70 |

*Ад. сп. Я. Міхалюка:*

| | |
|---|---|
| П. Асіповіч | анг.ф. 10 |
| А. Ражанец | 10 |
| М. Сенька | 5 |
| В. Тур | 5 |
| С. Дзейко | 5 |
| А. Мідэйлё | 5 |
| Ю. Весялкоўскі | 5 |
| Т. Дзімітраў | 1 |
| А. Жданковіч | 5 |
| Жынгель | 5 |
| Я. Міхалюк | 5 |
| Л. Міхалюк | 5 |
| Я. Сяўковіч | 10 |
| Усяго | 76 |

**КАНАДА**

*Ад сп. К. Акулы:*

| | |
|---|---|
| Б. Кірка | ам.дал. 15.40 |
| П. К. | 15.40 |
| К. Акула | 35.40 |
| Усяго | 76.20 |
| А. Монід | кан.д. 100 |
| А. Айэ | 20 |
| М. Гаўрылюк | 50 |
| Усяго | 170 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Ад нашага прадстаўніка сп. Г. Шайпака атрымана падпіскі, ахвяраў і за паасобныя нумары газэты.*

| | |
|---|---|
| М. Скабей | аўстр.д. 75 |
| Г. Шайпак | 50 |
| М. Шэко | 25 |
| П. Гуз | 25 |
| М. Нікан | 25 |
| У. Сідлярэвіч | 30 |
| Я. Стасевіч | 25 |
| А. Кукель | 30 |
| Ф. Лашук | 55 |
| Н. Сэсэтка | 30 |
| М. Швэд | 25 |
| Я. Яшчэнка | 25 |
| А. Груша | 50 |
| М. Субач | 25 |
| З. Кадняк | 25 |
| В. Гушча | 25 |
| А. Грынько | 20 |
| А. Насяра | 25 |
| Л. Яцкевіч | 25 |
| Н. Сікорская | 25 |
| В. Каралюк | 25 |
| Я. Валеньцёнак | 25 |
| З продажу «Беларуса» | 43 |
| Усяго | 733 |
| М. Раецкі | ам.д. 70.41 |
| М. Раецкі (за кнігі) | 35 |

**Папраўка**

У № 340 «Б-са» у справаздачы сп. А. Мароза была дапушчаная памылка. Грошы далі

| | |
|---|---|
| А. Ніжнік | аўстр.д. 20 |
| К. і А. Чабатар | 20 |

Усім прадстаўнікам, ахвярадаўцам і падпісчыкам шчыры дзякуй!

**ПРОСЬБА**

Перасылаючы грошы на выдавецтва «Беларус», калі ласка, на чэку пішэце толькі: **Bielarus.** Просім таксама перасылаць належнасьць у амэрыканскай валюце і дзякуем за супрацоўніцтва.

**Рэдакцыя**

***Да ўвагі нашых супрацоўнікаў***

## БЕЛАРУСКІЯ ІКАНАСТАСЫ

Газэта «Беларус», адзначаючы сёлета 1000-годзьдзе хрысьціянства на Беларусі, плянуе зьмясьціць у травеньскім нумары фатаграфіі іканастасаў усіх беларускіх цэркваў на Чужыне. Ніякага суправаджальнага тэксту да здымкаў давацца ня будзе, апрача назову царквы, году пабудовы (або набыцьця) ды адрасу.

Ветліва просім прысылаць нам добрую фатаграфію іканастасу Вашае царквы — пажадана гарызантальную, лепш чорна-белую, але можа быць і каляровая, толькі каб з войстрымі контурамі і не зацёмная. Будзем вельмі ўдзячныя.

Калі хто з Вас мае здымкі іканастасаў у цэрквах, якіх ужо няма, прышлеце таксама, каб іх задакумэнтаваць.

Здымкі мы мусім мець да 5-га красавіка сёлета.

Не забудзьцеся, калі ласка, залучыць патрэбную інфармацыю пра царкву.

З падзякай за супрацоўніцтва —

**Рэдакцыя «Беларуса»**

### ПРОСЬБА ДА ДАПІШЧЫКАЎ

Вельмі просім усіх, хто прысылае фінансавыя справаздачы ці хроніку пісаныя ад рукі, *выразна* пісаць прозьвішчы, геаграфічныя ды іншыя ўласныя назовы, бо здараецца, што тая ці іншая літара нявыразная, а праверыць ужо няма калі, дый каштуе гэта цімала часу й клопату.

З падзякаю за супрацоўніцтва —

**Рэдакцыя.**

### ДЗЯКУЕМ ЗА ПРЭСАВЫЯ МАТАР'ЯЛЫ

Сп. сп. Я. Мойсіку, Ф. Бартулю, С. Карніловічу, К. Вераб'ю, К. Акулу, Я. Міхалюку, В. Мельяновічу, М. Грэбеню, П. Урабну, Я. Каханоўскай, В. Рамук, Ю. Гасьцееву, Ю. Попку, М. Маецкаму, Я. Юхнаўцу.

Не забывайцеся пра сваю газэту «Беларус» і ў будучыні. Дзякуем усім!

**Рэдакцыя**